

From: red CD
To: friend
Subject: CD #10/2002

> Самы ідыятычны страх, які неаднойчы даводзілася
> перажываць - адчуваньне таго, як сталееш у свой
> так і не акрэсьлены, а таму далёкасяжны teen-age.
> Любыя кантакты з маладзейшымі па ўзросьце
> цывілізацыямі часьцей за ўсё заканчваюцца ціхім
> жахам - "яны не такія як мы, гэтыя браты па
> розуму!"
> Абставіны больш як празаічныя: выпадковая сустрэча
> з малодшым братам / сястрой свайго добрага
> знаёмага і як вынік добрага выхаваньня спроба
> падтрымаць кантакт першай ступені. Праз колькі
> хвілінаў "дыялёгу" вы ловіце сябе на думцы, што
> сустрэча добра нагадвае сцэну са сьпілбэргаўскага
> "ЕТ": дзьве жывыя істоты, паміж якімі разьбежка ва
> ўзросьце пяць год (максымум - полавая (м/ж)
> неадпаведнасьць), стаяць адна насупраць другой,
> напружана зазіраюць у вочы і, зьнясіленыя пошукам
> патрэбных словаў, асьцярожна спрабуюць працягнуць
> насустрач рукі. Словы не патрэбныя: галоўнае -
> паспрабаваць зразумець, ці ты на яго плянэце, каб
> вашыя галяктыкі альбо разышліся, альбо распачалі
> "вайну сусьветаў".



## знойдзеш нас у гэтых месцах

- аўтобусы **"INTERCARS"** і офіс **"INTERCARS"** (Менск, пр. Машэрава, 19, оф. 1-6)
- крама **"LEVI'S"** (Менск, пр. Скарыны, 48)
- крама **"ПОДЗЕМКА"** (Менск, пр. Скарыны, 43)
- крама **"БУНКЕР"** (Менск, вул. Казлова, 14)
- крама **"CAMELOT"** (Менск, пр. Скарыны, 44)
- крама **"МИСТЕРИЯ ЗВУКА"** (Менск, вул. Няміга, 12)
- ГЦ **"ПАРКИНГ"** (Менск, вул. Куйбышава, 40, крама "FUJIfilm")
- крама **"ПЕРЕХОД"** (падземны пераход каля ГУМа)


**Студэнцкая Dумка № 10 (82) 2002 г.**

**Заснавальнік:** грамадзкае аб'яднаньне "Задзіночаньне беларускіх студэнтаў"
**Выдавец:** рэдакцыя "Студэнцкай Думкі"

**Галоўны рэдактар** Ірына Віданава

**Рэдактары**
Мікола Шакель /mikalaus@hotmail.com/
Сяргей Сахараў /2ss2@tut.by/

**Камэрцыйны дырэктар**
Аляксандар Казлоўскі
/alex-iskander@mail.ru/
/па пытаньнях рэклямы - 8 (029) 626-69-36/

**Стыль і карэктура**
Алесь Кастыка

**Вёрстка** achuma_group

**Дызайн вокладкі** Аляксандар Канавалаў

**Фота на вокладцы** Аляксандар Канавалаў

**Адрас рэдакцыі:** вул. Дарашэвіча, 4-2, 220013, г. Менск
**Тэлефон рэдакцыі:** (017) 213-22-19
**Пэйджэр:** 206-75-75, абанэнт "DУМКА"
**Адрасы для допісаў:** 220030, г. Менск-30, п/с 90
studumka@tut.by
www.studumka.com

Часопіс выходзіць з 1924 г. Зарэгістраваны ў Дзяржаўным камітэце па друку Рэспублікі Беларусь. Пасьведчаньне № 1296 ад 13.04.1999 г.

Меркаваньні аўтараў часопіса не заўсёды супадаюць зь меркаваньнем рэдактара і рэдакцыі. Нягледзячы на тое, што ў працэсе падрыхтоўкі нумару фактычныя дадзеныя строга кантралююцца, рэдакцыя не нясе адказнасьці за дакладнасьць апублікаванай інфармацыі, а таксама за рознага кшталту наступствы, зьвязаныя з апублікаванымі матэрыяламі.





Друкарня ТДА "НоваПрынт".
Ліцэнзія ЛП № 285, выдазеная Дзяржаўным камітэтам па друку Рэспублікі Беларусь 28.07.1998 г.
Фармат 60x84 1/8
Папера афсэтная 80 г/м2
Падпісана ў друк 18.11.2002
Замова № 447
Наклад 3300 асобнікаў
Кошт свабодны

# ЗЬМЕСТ



ПАКАЛЕНЬНЕ ІКС

24-25



ПАЎСТАНЬНЕ ГОПАЎ

14-15



24-25

13





22-23

10-11





31-33






## RAY OF CORPORATION

"Лічыце грошы, не адыходзячы ад касы" - заклікае лёнданская ~~Sunday Times~~. Газэта прэзэнтавала чарговы сьпіс 500 самых багатых людзей сьвету і ў асобную групу вылучыла прадстаўнікоў ~~Каралеўства~~. Паколькі лічыць чужое - ня самы высакародны занятак, мы прапануем зірнуць на сьпіс з пункту погляду запатрабаванасьці зорак у шоў-індустрыі.



Аказваецца, ~~Мадона~~, якая ўжо колькі год жыве з Гаем Рычы ў Англіі, зарабіла свае ~~36 млн.~~ толькі дзякуючы харызматычнаму ~~Білі Гейцу~~ - па сьведчаньнях газэты, 16 млн. прынёс ёй кантракт з Microsoft. Кампанія выкарыстала ~~Ray of Light~~, каб запусьціць Windows XP. Тым часам кантракт з Warner Brothers прынёс Мадоне толькі 4 мільёны.
Варта адзначыць посьпех Робі Ўіяльмса, а таксама Эвана Макгрэгара, які за выкананьне правальнай ролі ў "Войнах" атрымаў 8,5 млн. фунтаў стэрлінгаў.

**1. Мадона - 36 млн. фунтаў**
**2. Пол Макартні - 35 млн.**
**3. Мік Джагер - 24,5 млн.**
**4. Кейт Рычардз - 24 млн.**
**5. Стынг - 21,8 млн.**
**6. Эрык Клэптан - 14,2 млн.**
**7. Род Сьцюарт - 12 млн.**
**8. Чарлі Ўотс - 12 млн.**
**9. Піт Таўншэнд - 10 млн.**
**10. Робі Ўільямс - 10 млн.**

*с.а.*

## "НАРПІТ"

"Хутка і па-беларуску" скончылася вечарына ~~"Хэпі міл"~~ у менскай кавярні ~~"Престо"~~. Месцазнаходжаньне, публіка, дызайн, музычная палітыка да нядаўняга часу замацавалі за "Престо" пазыцыі "смачнай" для клюбэраў установы, але шэраг падзеяў пачатку месяца, на думку назіральнікаў, можа канчаткова паставіць на кавярні крыж - нават заплянаваная вечарынка "Престо возрождается" не дапаможа.
Пачалося ўсё ня ўчора, але рэцыдывы адміністрацыі ўстановы абвастрыліся чамусьці позьняй восеньню. Спачатку запрошаны госьць, маскоўскі ~~dj Шушукін~~ (клюб "Пропаганда", Масква) пад напорам адміністратара вымушаны быў швэндацца па памяшканьні, каб знайсьці сабе прытулак. Але самыя цікавыя гісторыі чакаліся наперадзе.
Пасьля кастрычніцкіх сьвятаў на вечарынку "Хэпі міл" сярод іншых быў запрошаны францускі ~~dj Bij~~, саўладальнік віленскага клюбу "po Saule". Атабарыўшыся каля круцёлкі з Саўлюсам і папрацаваўшы блізу гадзіны, чувак і не падазраваў, што гэтымі сваімі дзеяньнямі "нарываецца". Няўмольны ~~Бэргама~~, які небеспадстаўна лічыцца "асноўным на Прэстане", пачаў указваць французу на час, маўляў, Set is Over - дай мне пайграць, бо праз дзесяць хвілінаў трэба выяжджаць у іншае месца! Далей пачалося тое, што Bij назваў "pushed me" і на што француз зрэагаваў сталёвым ~~fuck off~~.
Хутчэй за ўсё, Bij ня зьявіцца ў Менску яшчэ вельмі доўга - тое, што адбылося з французам, не дазвалялі сабе нават бальшавікі ў сямнаццатым...
*а.п.*



А Д Р Э Z А К




## МАРЫЎАНА

Расея ў экстазе: сацыяльны і палітычны авангард пачаў буйнамаштабную кампанію па замаху на самыя народныя стымулятары - піва і водку, якія прапануецца зямяніць марыхуанай. ~~"Легалайз"~~ цягнецца некалькі месяцаў. Так, у кастрычніку ладзілася ключавое мерапрыемства пад назвай ~~"Дні канопляў"~~.
Тым часам Беларусь выяўляе мэнтальныя рудымэнтарныя схільнасьці ў пытаньнях пашырэньня сьвядомасьці. Па сьведчаньнях некаторых прадстаўнікоў СМІ, у адным з апошніх інтэрвію вядомая айчынная ~~рок-зорка~~ паскардзілася на тое, што "народныя стымулятары" беларускае вытворчасьці не адпавядаюць шмат якім стандартам якасьці. Матэрыял увенчваў досыць сьмелы заклік тэрміновага "легалайзу".
Калі інтэрвію было падрыхтаванае да друку, неабазнаны ў апошніх сусьветных тэндэнцыях рэдактар валявым рашэньнем выкрэсьліў ~~"вянец тварэньня"~~, чым паставіў па-за агульнаэўрапейскімі працэсамі ня толькі сябе, але і рок-зорку.
*fw*

~~Нечаканымі энэргетычнымі ўспышкамі~~ адказвае беларускі хіп-хоп на рэзкія кліматычныя зьмены. 2 лістапада ў Моладзевым тэатры эстрады прайшоў фэст брэйк-дансу ~~"Power of 2"~~.



Нечаканасьць нават для арганізатараў: перад пачаткам купіць квіткі было ўжо немагчыма, хіба што толькі з рук. Сцэна зь цяжкасьцю зьмяшчала ўдзельнікаў, як і невялікая заля - усіх ахвотных паглядзець (некаторым даводзілася расканцэнтроўвацца "па сьценачках"). Мерапрыемства сабрала каля шасьці дзясяткаў ~~b boys&b girls~~ краіны й навакольля.
Арыгінальнасьць фэсту ў тым, што па сутнасьці камандаў не было, брэйкеры спаборнічалі "двойкамі". У выніку лепшыя атрымалі неблагія прызы ад спонсараў. Астатнія паслухалі запрошаных рэпэраў - "Наше дело" etc., з чым і паехалі дахаты трэніравацца.
А тым часам менскія рэп-гурты ~~"Нестандартный Вариант"~~ і ~~"IQ48"~~ рыхтуюць сваю вэрсію энэрэмаўскага трэку ~~"Паветраны шар"~~. Частку тэксту для "новай старой" песьні напісаў Базыль (НВ), частку - Фрэйд (IQ48), нешта пакінулі з арыгіналу. Усе копірайтавыя пытаньні ўзгодненыя з праваўладальнікамі (NRM), а ~~Лявон Вольскі~~ асабіста пагадзіўся засьпяваць прыпеў. Новы "Шар" як мінімум увойдзе ў альбом НВ. Як максымум... Але ня будзем загадваць. Чытай на ст. 24 інтэрвію з брэйк-данс-камандай STREET MASTERS.
am

Батальныя сцэны МТС і Velcom на некаторы час адцягнулі ўвагу ад яшчэ аднаго беларускага апэратара мабільнай сувязі - БелСел. Апошні, трапіўшы ў цень, у шапку ня спаў. ТАА СП ~~"БелСел"~~ яшчэ ўлетку атрымала ліцэнзію мінсувязі на аказаньне паслугаў сотавай сувязі ў стандарце ~~cdma2000~~. І, вытрымаўшы джэнтэльмэнскую паўзу, абвесьціла пра гэта на сваім афіцыйным сайце. Паводле ~~belcel.by~~, стандарт лічбавай сувязі трэцяга пакаленьня cdma2000 быў распрацаваны для ўзброеных сілаў ЗША. Адпаведна, мае безьліч плюсаў: малая затрымка голасу, высокая ступень абароненасьці, адсутнасьць фонавых шумоў, большая бясьпека для здароўя і навакольля... І, што істотна для абанэнтаў, кошты не перавысяць GSM-аўскіх тарыфаў. Да моманту ўводу сеткі ў эксплюатацыю (мяркуецца, што гэта адбудзецца ў ~~лютым 2003~~ г.) БелСел плянуе "накрыць" Менск і ваколіцы, а таксама ўсе абласныя гарады Беларусі. Выдае на тое, што да бітвы гігантаў далучаецца яшчэ адзін.
*m.s.*

**Прызы ад спонсараў конкурсу:**

ТАА **"КРАВТ"** (пр. Скарыны, 172, т.260-82-52, 268-01-80, факс 285-83-23), афіцыйны дыстрыбутар парфумэрных марак Yves Saint Laurent, Gucci, Rochas, Dunhill, Hugo Boss, Laura Biagiotti, Max Factor, Isadora, Pupa - дорыць пераможцы туалетную ваду любой з вышэйпералічаных фірмаў.

Фірма **"INTERCARS"** (пр. Машэрава, 19, Менск, каб. 1-6, т.226-93-05, 226-97-80) прэзэнтуе квіток "Менск-Парыж-Менск" для пераможцы конкурсу.

Крама **"EXTRA"** (Менск, пр.Скарыны, 43, т.288-20-36, "Подземка") прэзэнтуе модныя нагавіцы альбо спадніцу - на выбар.

Прадстаўніцтва кампаніі **"PHILIPS"** у Рэспубліцы Беларусь (Валадарскага 6, Менск, 220050) дорыць пераможцы фэн.

ЗАТ **"ФОРЕНЭТ"** (вул. Маскоўская, 20-519, Менск, т.210-25-20) дорыць пераможцы 50 гадзінаў працы ў інтэрнэце.

Выставачны цэнтар **"ОЛИМП"** (Менск, вул. Я.Коласа, 3, т.239-33-35) дорыць набор касмэтыкі.

Крама **"LEVI'S"** (Менск, пр.Скарыны, 48, т.288-25-62) дорыць джынсы на выбар.

Фірма **"DAAS"** (вул. Калініна, 7, к.55, пр. Скарыны, 93, п. 5, оф. 7 (цокальны паверх), т/ф 285-61-71, т.266-95-61, 269-10-50, www.daas.com) дорыць калёнкі Genius G06.

Усіх удзельніц конкурсу чакаюць сувэніры ад **Metropolitan Model Agency Minsk**. Да таго ж, ты маеш рэальны шанец трапіць у базу дадзеных Metropolitan Model Agency, а значыць, заявіць пра сябе ў мадэльным бізнэсе.

**"Первый Музыкальный канал"**- генэральны інфармацыйны партнэр.



## КНІЖКА КОЎПЛЭНДА

Яна так і называлася - "Пакаленьне Ікс". Яе гісторыя пачалася з авансу ў памеры $ 22.500 - някепская сума для малавядомага канадзкага журналіста Дугласа Коўплэнда. Але замоўцы ведалі, на што ідуць: ім была патрэбная кніга пра новае пакаленьне маладых людзей, пакаленьне, якое напрыканцы 1980-х пладзілася як прусакі на кухні - гэтак жа хутка, нахабна і з добрымі пэрспэктывамі на будучыню.
У выніку "Пакаленьне Ікс" стала раманам пра трох маладых няўдачнікаў-каліфарнійцаў, перапоўненым замалёўкамі з маргінальнай натуры. Спачатку твор быў "проста кнігай", пасьля - "дэклярацыяй новага пакаленьня", а напрыканцы - "культавым тэкстам", у якім былі расьпісаныя асноўныя пастуляты і жыцьцёвыя прынцыпы дзетак "бумэраў". Містэра Дугласа, адпаведна, надзялілі якасьцямі прарока і гуру, і той цягам дзесяцігодзьдзя пасьпяхова спраўляўся з ускладзенымі на яго абавязкамі: даваў інтэрвію, пісаў эсэ для высакалобых і проста модных часопісаў, у якіх падрабязна тлумачыў, што такое "іксэры". Для пачатку тэмы былі напісаныя "ПляНэта Шампунь" і "Жыцьцё пасьля Бога".
Такім чынам, хто такі клясычны "іксэр"?
Гэта малады каліфарніец (ці больш агульна - жыхар Паўночнай Амэрыкі), часьцей за ўсё адзінае дзіця бацькоў-"бумэраў". Апошні факт ад нараджэньня нанёс яму глыбокую душэўную траўму: быць першынцам брудных гіпі -прадстаўнікоў пакаленьня "бум", для якіх 20-гадовай даўніны заклінаньне "make love - not war" страчвае актуальнасьць да першага прыступу гемару, - ня самае прыемнае, што з вамі можа здарыцца ў жыцьці. Тым больш мала прыемнага бачыць, як аблезлыя ад часу "дзеці кветак" у 40-гадовым узросьце штодня пасылаюць далёка ўсе свае гіпоўскія прынцыпы, адно каб трымаць уласную задніцу ў цяпле.
"Іксэр" не спадзяецца калі-кольвек набыць свой дом і задавальняецца жыцьцём зь сябрамі ў трэйлеры. Ён не хваліецца наконт прыстойнай працы з добрым заробкам - такую яму замяняе нізкакваліфікаваная "макджоб": сташ сабе, мыеш посуд у забягалаўцы, шукаеш сваё адлюстраваньне ў брудных талерках і марыш пра тое, як правядзеш вечар зь любай (-ым). Ніякай сям'і і ўзаемных абавязкаў - толькі сэрыйная манагамія: сустракаесься з каханым чалавекам, жывеш зь ім, езьдзіш да бацькоў у госьці, сварысься і назаўжды разыходзісься. Сустракаесься зь іншым - і далей да бясконцасьці. А што вы хацелі: абавязкі - гэта сьвятая карова грамадзтва, але пра якія абавязкі можна казаць у краіне, дзе кожны сам за сябе?
Папулярнасьць Коўплэндавага "Пакаленьня Ікс" мае канкрэтнае вымярэньне - да 1995 году было прададзена 400 000 асобнікаў кнігі з падзагалоўкам "Казкі для паскоранага часу". Паколькі з часу выхаду першай кнігі незразумелых абывацелю рэчаў не паменшылася, а новых дэклярацыяў ад імя моладзі так і не зьявілася, супольна было вырашана, што "пакаленьне ікс" - гэта ня проста субкультура, а ўсё, што зьвязана з актуальнай культурай наагул і з вобразам жыцьця ў прыватнасьці. Вось так проста і з густам, танна і сурова, але - па тэме.
Трохі разабраўшыся ў "шырокіх" замалёўках пра жыцьцё сярэдняга "іксэра", усе зразумелі, што адно з ключавых словаў у лексыцы "іксэраў" - "замест": сям'і, працы, кар'еры, грошай. "Іксэры" расчаравалі, бо не шукалі, як думалі ўсе, нечага прынцыпова новага, а папросту спрабавалі адкапаць альтэрнатыву заўсёдным каштоўнасьцям, якія былі, ёсьць і будуць ва ўсе часы і ва ўсіх пакаленьняў.
У рамане "Рабы Майкрасофту" Коўплэнд яшчэ спрабаваў даводзіць, што ўжываньне тэрміну "пакаленьне ікс" у шырокім значэньні выглядае, прынамсі, тупа. Але запозна - цягнік пайшоў на Ўсход.

## УСХОДНІ ЭКСПРЭС №X

На постсавецкія прасторы амэрыканскае "пакаленьне" дабралася яўна задохлым. Зараз цяжка ўзгадаць, у якой з поп-культурных бібліяў зьявіўся расейскамоўны пераклад Коўплэнда - у "Птюче" ці "ОМе", час зацёр іх дактыляскапію. Так ці інакш, на той момант за імі стала замацавалася "глянцавая" рэпутацыя, якая і зрабіла сваю гнюсную справу: згаладалым па хоць якой-небудзь ідэалёгіі постсавецкім клюбэрам, "падонкам" ды іншым нашчадкам ВЛКСМ, што бачылі манатоннасьць уласнага існаваньня, "іксэрства" падалося новай рэлігіяй, якая дасьць збаўленьне ад ранейшых абывательскіх грахоў.
Адно словазлучэньне "пакаленьне ікс" заваражвала: узгадвалася, як дзесяць год таму "старэйшыя хлопчыкі" палілі, нюхалі, слухалі забароненых рок у андэрграўндзе - і іх заўважалі, ім прысьвячалі артыкулы, фільмы, ім задавалі пытаньні кшталту "легко ли быть молодым?" А цяперашнім андэргараўндэрам (ад аднаго слова язык зьвернеш) наканавана быць забытымі толькі з-за таго, што яны мелі няшчасьце позна нарадзіцца?! Не-е-е-е!.. Менавіта "іксэрства" стала сатысфакцыяй за перажытыя няўвагу і забыцьцё.
Ад амэрыканскіх slackers патыхала нечым незвычайным, магчымасьцю далучыцца да агульнасусьветных працэсаў, ці што; гэты пах дазваляў адшукаць у асноўных "іксэрскіх" пастулятах саміх сябе. І было неістотна, што само "іксэрства" струхлела, - яго напоўнілі жыцьцём. Яно ж у знак удзячнасьці за эксгумацыю падкідвала ўсё больш і больш нагодаў адчуць, што ісьціна не побач, яна тут - варта адно пашукаць. Паколькі мясцовая публіка зь дзяцінства кіравалася запаветам "кто ищет, тот всегда найдёт", то адпаведна...
Прадстаўнікамі "пакаленьня ікс" сталі ўсе: адмарозкі-гопнікі, клюбэры, гранжэры, рэйвэры, нэа-пiянэры і камсамольцы, хакеры, сатаністы і інш. Апрача Коўплэнда на ролю прарокаў "пакаленьня ікс" прэтэндавалі Тарантына, Муракамі зь Пялевіным, Грымаў і Лагуценка - працягласьць сьпісу залежыць ад эрудыяванасьці кожнага. Любое змарнелае выяўленьне "ўсяго-нечага нова-незразумелага са сьвету моладзі" лёгка дапасоўвалася да тэрміну і тут жа аналізавалася - крок за крокам, мэлёдыя за мэлёдыяй, радок за радком. Постсавецкія "іксэры" ў сваю чаргу стараліся даць дарослым як мага больш нагодаў: жылі не па завядзёнцы, незразумела размаўлялі-глядзелі-слухалі, чыталі абсалютна дэгенэратыўныя тэксты, "каўбасіліся" і да т.п. Ніхто ня браў да розуму іранічнасьць тэрміну "пакаленьне ікс" другой паловы 1990-х - трэба было даць агульнае вызначэньне той колькасьці новай і незразумелай інфармацыі, якая тонамі звальвалася ў галовы постсавецкіх абывателяў.
Некаторыя з "нашых" сапраўды маглі б насіць годнае званьне "пакаленьне ікс" дзе-небудзь на Захадзе, але ня тут, у вечнай мерзлаце "сацыялізму з чалавечым тварам". Сьмешна казаць пра "сваіх", якія толькі і думаюць, дзе б "зарубіць" нармальныя "бабкі" на пражыцьцё. Яны і носу ня сунуць на пасаду "банальных" мыйшчыкаў посуду ці прыбіральшчыкаў - статус не дазваляе. Больш за тое: у іх патаемных марах, што агучваюцца толькі пасьля трэцяга касяка ці першай сумеснай "сьцяжынкі", на даляглядзе пэрспэктываў мітусіцца... япі, галоўны вораг каліфарнійскага "іксэра", кар'ерны монстар, задаволены ўласным жыцьцём па ўсіх кірунках. Расцэньваць такія мары як падрыў ідэалёгіі "іксэрства" ня менш сьмешна: усё ад беднасьці - духу і плоці.
Зрэшты, дыхайце глыбей, ёсьць нешта агульнае ў "нашых" ды "іхных". Пасіўнасьць. Толькі ў каліфарнійца яна мае хутчэй сацыяльны характар, а ў "нашых" - генэтычны. "Нашым" усё пофігу не таму, што гэтае "ўсё" асацыюецца са створаным "бумэрамі" сьветам (для большасьці "нашых" "бу-бу-бу-бу-бу-бу-бу-бумэр" - супэр-герой з рэклямы жуйкі), а таму што проста "поХ*й" з усімі адпаведнымі наступствамі. Зыходзячы з нашай інтэрпрэтацыі значка X, большасьць беларусаў незалежна ад узросту "іксэры".



## WHO'S NEXT?

- спарадычна ўзьнікала пытаньне ўжо падчас kananьня "іксэраў". Занадта задзірліва тырчэла ў розныя бакі літара X, занадта прыцягальнымі падаліся ідэі Коўплэнда пра ролю і пэрспэктывы "новага пакаленьня". Але было відавочна, што іх час сыходзіць.
Паколькі масам для ідэнтыфікацыі быў патрэбны новы, непадобны да ранейшых, але пазнавальны вобраз маладых людзей - малодшых братоў "іксэраў", было вырашана не пускаць працэс на самацёк. Распрацоўкай ідэалёгіі для экс-X заняўся шоў-біз.
Новыя ідалы нарадзіліся з самога пытаньня - "хто наступны?" Нічога арыгінальнага не спатрэбілася: Generation X замянілі на Generation neXt, дзе ключавой літарай, як вы зразумелі, аказаўся ікс.
Next мусіў быць лепшым, разумнейшым, актыўнейшым за папярэднікаў. Ён павінен быў несьці адно толькі пазытыўную ідэалёгію актывіста па жыцьці, які нягледзячы ні на што можа рэалізаваць сябе ў эпоху татальнай глябалізацыі і, калі трэба, пакласьці за яе сваё жыцьцё. Па вялікім рахунку, гэта вельмі агульныя, але дастатковыя крытэрыі для адрозьніваньня пакаленьня 1968-80 гг. ад 1982-...
Першай рукатворнай іконай для Next'эраў сталі Spice Girls, якія абвесьцілі на ўвесь сьвет, што ўлюбёным напоем для generation neXt (рэклямшчыкі вельмі любілі выпінаць з надпісу менавіта гэтую літару) ёсьць Pepsi; пра тое, хто ж зьяўляецца першым і непаўторным героем для нэкст-малалетак, "спайсушкі" сарамліва прамаўчалі. Хаця ўсё і так было відавочна: як можна не раўняцца на іх, маладых, агрэсіўных, галасістых, спартовых - сынанімічны рад быў бясконцым, бо на яго папаўненьне працавалі перш за ўсё глябальныя, MTV'шнага кшталту канторы. Тыя штодня прапаноўвалі ўсім ахвочым і ня вельмі новыя рэцэпты, як стаць модным, прасунутым, арыгінальным, вар'яцкім.
Наколькі заходнія Next'эры аказаліся адэкватнымі рэчаіснасьці, сказаць цяжка - у якасьці матэрыялаў для аналізу ўзгадваюцца чамусьці толькі перастрэлкі ўдзячных вучняў зь безьзбройнымі настаўнікамі, зухаватыя генітальныя жарты зь "Вельмі страшнага кіно" і эскадры бой- і хардкор-бандаў. Але паколькі новы тэрмін у адносінах да моладзі так і не актуалізаваўся, значыць, усе задаволеныя і, будзем спадзявацца, сьмяюцца.
Беларускія Next'эры, надзіва, мала чым адрозьніваюцца ад сваіх заходніх калегаў - усе эпітэты можна дапасаваць і да іх. Адно што з пэўнымі заўвагамі: так і не наблізіўшыся да Захаду, "нашы" спрабуюць "нарасьціць" "заходнесьць" і ў ходзе справы па традыцыі, якая дасталася ад савецкіх прашчураў, заадно не забываюцца парваць на грудзях вышыванку. Элемэнтарны прыклад - новабеларуская традыцыя сьвяткаваць Дзень сьв. Валянціна "як палажана" ў "іх" - сардэчкі, кветкі, пацалункі, але з заканчэньнем як у нас - усенародны "бухач" на тыдзень, аж да 23 лютага!

# EVERYTHING CHANGES

сьпявала ў сярэдзіне 90-х нейкая boy-group. І ніхто ня ведаў, НАКОЛЬКІ гэта праўда.













## "Ляпис Трубецкой vs. "Ленинград"

**1996**

Міжнародны дзень музыкі. Народ зьбіраецца на Карабліку, каб на халяву пакаўбасіцца пад "Нейро Дюбель". Пра "малады" гурт "Ляпис Трубецкой" ніхто нічога ня ведае. Таму ад "Зурбагана" ўсе літаральна выпадаюць у асадак. Сьлёзы на чырвоным твары Міхалка - ці то ад глыбіні пачуцьцяў, ці то ад сонца ў вочы. На тварах маладзёнаў, што тоўпяцца ля століка з касэтамі ЛТ, напісана чорным па белым: "Праглядзелі!" Ніхто не прызнаецца, што чуе ЛТ упершыню. Прасунутыя - тыя, хто памятае першыя канцэрты "ляпісаў" (ленінскія кепкі + імідж "пацаноў зь мікрараёну" (гл. Саша і Сірожа) - хітра ўсьміхаюцца: так, пацаны, гэта нашыя героі.

...На сольніку ЛТ у Палацы прафсаюзаў месяцаў у залі хапіла, мабыць, толькі кожнаму трэцяму з заяўленых на вуліцы. Чамусьці запомнілася выбітае шкло ў дзьвярах і мудрымудры твар мэнэджэра ЛТ Калмыкова пад плякатам "Тут могла быть ваша реклама". Рэкляма і слава ўжо не за гарамі...

**2001**

"Все за*бало, п*ц, нах, б*" - гучыць неяк больш жыцьцесьцьвярджальна за аморфную "ўсеагульную млявасьць". Шнур - гэта "перац" эпохі: абсалютна дэгенэратыўны, мачападобны прыдурак, які спакойна "пыхае", а пасьля выходзіць у наўпросты ТБ-этэр і на фоне факу ў кішэні заганяе адзначаную фразу мільёнам гледачоў. Карацей, падонак. Ці проста разумны адмарозак. Ходзяць чуткі, што ў Маскве Шнур - адзін з самых пэрспэктыўных піаршчыкаў. І ня дзіўна: так удала спалучыць панк, нейкае ска і клясычны дваровы шансон, а пасьля ўсё гэта выгадна прадаць можа альбо геній, альбо злодзей. Прынамсі, "чапляе" ён лепей за прыбітага Міхалка - ЛТ на фоне "Ленинграда" выглядае амаль клясычнай музыкай, а яе, як вядома, любяць толькі лохі.

Так што давайце, біце ў ладкі, сукі...

## Бел. піва vs. Натуральныя сокі

**1995**

Усеаб'емнай апекі бацькоў я ўжо не адчуваю. Сацыяльны статус - студэнт 1 курсу. Асаблівай радасьці з гэтай нагоды не адчуваю таксама. Каб адчуць, п'ю піва. Беларускае. "Старажытнае", "Леў" і "Менскі бровар". Пра тое, што такое портэр, даведваюся з падачы роднай "Крыніцы". Даніну за кантрольныя па замежнай мове бяру цяпер толькі менскім портэрам. Празь некалькі месяцаў той зьнікае, хоць і ня мог адзін чалавек (нават такі дэгенэрат, як я) усё выпіць. Пеця В. прыяжджае зь Піцера і захоплена распавядае, як у тамтэйшых гастраномах за беларускім півам стаяць чэргі. Вакол толькі і чуваць пляны інтэрвэнцыі ў суседнія дзяржавы шляхам заваяваньня іх рынкаў айчынным піўцом, а пасьля рэзкім прыпыненьнем паставак стратэгічнага напою. Прыходзім да высновы, што радзіма хутка стане чацьвертай піўной дзяржавай пасьля Нямеччыны, Чэхіі і Бэльгіі. Бэльгію нават пераплюнем.

**2002**

Нават лідзкае, якое ўзгадвалі з такім жа піетэтам, як "Стэлу Артуа", занадта кіслае, каб перажываць прыступы п'янога патрыятызму. Сярністая "Балтика", "Доктор Дизель", які па кансыстэнцыі нагадвае Хірасіму ў працэсе бамбаваньня, "Оболонь", звараная на сьпірце - і п'яныя сьлязьлівыя вочкі ды кепскі пах з роту большасьці мінакоў пасьля 18:00. Піва - напой, які "ня першы год дапамагае займацца сэксам ідыётам" і тым, хто "так апрануты, бо так яны п'юць сваё піва".

Сок - гэта не надуманая пыха і не паказальныя заняткі здароўем, але іншая культура, адрозная ад паўцьвярозай стаднасьці і трухлявасьці масаў. Не навязаная прапагандай ТБ-рэклямай (пакуль што) і не такая "попс", а таму - нашая.

## "Культавая кніга" vs. Бэстсэлер

**1996**

Гэта чарговае адраджэньне моды на "культурнасьць" і "начытанасьць". Іншая справа, што ў кожнага свой культ. Дзядзькі і цёткі са спальных раёнаў захлынаюцца ў апошніх ванітах Чэйза - самага пладавітага і зразумелага масам дэтэктыўшчыка, але ў патыліцу яму дыхае нейкая (нейкі?) Сьціл; мідл-кляса чытае Арсан і шматлікія поп-гераічныя біяграфіі (Манро, Бітлз), пачынае пачытваць глянцавыя часопісы з Масквы - беларуская газэтная палітыка і эканоміка абрыдлі аднастайнасьцю і разбуральнасьцю. Інтэлектуалы і прыпаркаваныя каля іх "аргазмуюць" ля бібліятэчных стэндаў зь "Иностранкой" і перавыданьнямі Ніцшэ. Найбольш арганізаваныя робяць выезды па творы Пялевіна ў Маскву і прадаюць "культавыя" сама мала дзесяць год таму кнігі ў былых дамах і палацах культуры. Людзі выбралі сваіх аўтараў ды герояў і гатовыя рынуцца ў бой - зь ідэаламі, ідэямі і канцэпцыямі на харугвах.

**2002**

Мас-культ у дзеяньні: ранак у мэтро забіты літаратурай для ўсіх і кожнага, народ дэманструе, як злавіў за хвост час - апошнія бэстсэлеры ў руках кожнага дзясятага! Кнігі рэдка калі робяцца бэстсэлерамі "самі па сабе" - іх робяць масіраваныя рэклямныя кампаніі. Муракамі, хуракамі, сарокіны і талстыя, архэ і "ілюминаторы" - самая галоўная задача ў пару адсачыць і прачытаць! Пытаньне пра здольнасьці страўнікаў пераварваць дзікія літаратурныя спалучэньні пакуль уздымаюць адзін-два чалавекі, але адчуваецца - людзі наваструлі вушы: што рабіць, калі раптам перастануць складаць сьпісы і будзе прапушчаная чарговая сэрыя Гары Потэра?

## Пэйджэр vs. Мабіла

**1997**

Пэйджэр - першая пасьпяховая спроба сучаснага чалавека зрабіцца па-сапраўднаму дасягальным. Схема "даступнасьці" вельмі зручная пры карыстаньні: увесь сьвет можа сканэкціцца з табой, і пры гэтым не парушаецца твая прастора - хочаш адказвай, хочаш - не. Ясная справа, крыху прыніжае тваю ідэнтыфікацыю паводле нумару, але ты - толькі абанэнт, адзін з..., містэр ікс, сам па сабе. Самае галоўнае - паведамленьне, урыўкі твайго і чужога жыцьця, што дасягальныя да пэўнага часу - пакуль рэзка ня сядзе батарэйка ці нехта выпадкова не націсьне на "сьметніцу". Так і трэба рабіць зь мінулым - прэч!

**2002**

Заканчваецца пэрыяд "не якасьці, а колькасьці" - 357 129-ы падключэнец ня можа сабе дазволіць выконваць на струнах зайздрасьці суседа заюзаную песьню "А пазвані мне на мабілу" - гэта шлягер мінулага году. Дапамагчы можа толькі мультыінструмэнталізм. Адзін знаёмы агаломшыў усіх наведнікаў нятаннай менскай кафэшкі, калі, адгукнуўшыся на мэлёдыю "Нокіа", здраў швэдар і прадэманстраваў запхнутыя за рэмень пяць (!!!) розных мабілаў, падключаных да беларускага Velcom, расейскага МТС, польскага ERA і яшчэ нейкіх заходніх апэратараў. Але надыходзіць "якасна" новы этап - ты цягнесься да сонца з мабілай у руцэ толькі дзеля таго, каб абраць самую зручную позу і "злавіць хвалю". Старайся! Будзь на сувязі!..



# Майкрасофт уорд

## беларуска-беларускі слоўнік



падрыхтаваў Лёша Яцукевіч

**Што насамрэч маюць на ўвазе навучэнцы беларускіх школаў, ПТВ і каледжаў, калі ўжываюць наступныя словы:**

**арбуз** - АМАПавец
**баян** - 1. сідзі/аўдыё-плэер; 2. шпрыц
**бузы** - гл. рамс
**гопнік** - чалавек, які слухае разнастайную музыку
**крагі** - 1. боты фірмы Camelot; 2. цяжкія, масіўныя боты на "трактарнай" падэшве
**"кружка піва"**, **"узяць піва"** - удар па нырках
**крычаць** - запэўніваць у сваёй правасьці
**лівэр** - грошы (звычайна у.а.)
**льгі** - сталовыя прыборы
**мудзі** - валасяное пакрыцьцё (апрача галавы)
**мэрліны** - скіны, лысыя
**падсасваць** - падглядаць
**паліць** - глядзець
**плуг** - 1. чалавек з правінцыі; 2. просты, даверлівы чалавек
**ракшы** - рукі
**рамс**, **рамсіць** - высакамерныя, неадэкватныя сытуацыі паводзіны (= понт, пантавацца)
**сапляжуй** - малады чалавек ва ўзросьце 14-16 год
**фарш**, **фаршаваць** (алькагалічнае) - пасьля злоўжываньня сьпіртовымі напоямі ачышчаць страўнік аральным шляхам
**чача** - усё тое, што рэзка не адпавядае вашаму густу: купіць ч., наступіць у ч.
**чэк** - тое самае, што і плуг, толькі мягчэй
**шалабас** (алькагалічнае) - усё, што прыводзіць у стан моцнага алькагалічнага ап'яненьня
**шэпчаш** - ясна, зразумела







# пакаленьне ЧЭ

### памяці загінуўшых на спэктаклі "Норд-Ост"

Слава Бандарэнка

У тыя хвіліны, калі мы разам з адным рэдактарам вось гэтага часопіса сядзелі ў кавярні на плошчы Перамогі і балбаталі "за жызьню", у Маскве, на прадстаўленьні мюзыкла "Норд-Ост", жыцьцё паказвала людзям ня самую прыемную са сваіх грымасаў.

Набраў па мабільніку нумар маскоўскай сяброўкі: яна, дзякуй богу, была дома і яшчэ нічога ня ведала - глядзела баскетбол па спартовым канале.
А ў ноч на 28 кастрычніка мне прысьнілася, што газ, які пускалі ў залю, называўся Цыклон Б.

Калі я быў чалавекам гадоў пятнаццаці, мае бацькі, мілыя людзі, казалі, што расту я нейкім безыдэйным. Нават у камсамол спрабавалі мяне, дзівакі, загнаць (ішоў 1989 год, які камсамол?..). Яны нават не падазравалі, што безыдэйным быць ня толькі крута і модна, але гэта яшчэ і ратуе. Дваццатае стагодзьдзе цьвёрда навучыла ня толькі мяне, але і шмат маіх сяброў: убачыў натоўп - адыдзі. Ад таго, што цябе пераедуць гусеніцамі 134 цяжкія танкі, сьвет вакол і тым больш ты сам лепшымі ня зробіцеся. З тае пары як я зразумеў гэтыя простыя ісьціны, ідэі, што дагэтуль вілі досыць утульныя гнёзды ў доўгавалосай маёй галаве, пачалі жвава адлятаць у вырай. Я ўсьвядоміў, які кайф быць самім сабою, ня ўпісвацца ні ў якія тусоўкі. Душы стала лягчэй. Цяплей. Спакайней. Якія яшчэ ёсьць эпітэты?

Патлумачу. Безыдэйны чалавек ніколі ня дасьць затлуміць сабе галаву. Ён ня будзе ўскокваць зь ідыёцкай усьмешкай на твары пад гукі гімну, ня стане "мачыць" каго-кольвек у сартыры і не ў сартыры. Ён будзе сядзець у бары і піць каву. Люблю людзей, што сядзяць у бары і п'юць каву - проста за тое, што яны нікога не забіваюць і ня гвалцяць. Хаця, хіба што, маюць такія магчымасьці.

Радасна, што з гадамі такіх людзей усё болей і болей. Нярадасна тое, што "Норд-Ост" захапілі, у прынцыпе, нашыя равесьнікі. Маленькі штрышок - ідэйныя. Яны атрымалі тры дні сваёй сусьветнай славы, пасьля чаго пайшлі да Алаха. Але далі нам вельмі добры ўрок: Вялікая Ідэя (усё адно якая) згубная ня толькі для выпадковых мінакоў, але і для носьбітаў гэтай ідэі. Урок някепскі, адзінае што - колькі такіх урокаў ужо давалі?
Нашыя равесьнікі=нашае пакаленьне? Не-а, скажу я вам, не хаваючы пазяханьня. Гэта абсалютна дакладна НЕ МАЁ пакаленьне. І не пакаленьне маіх сяброў. Гэта проста нейкія людзі, якія чамусьці нарадзіліся ў адзін і той жа з намі час. Але жылі яны ў іншым вымярэньні. І ў іншае вымярэньне, хіба што, перамясьціліся. Назавем іх умоўна пакаленьнем Чэ. Няважна, Чэ Гевары, чыё аблічча красуецца на пялевінскіх вокладках і майках антыглябалістаў, ці чачэнцаў, якія заціснутыя ў рамкі сваёй нацыі і сваёй рэлігіі.
Мне падаецца, будучыня не за гэтым пакаленьнем. І ня думайце, што я працытаваў прамову Пуціна.

А наагул... Блін, як усё цяжка. Як усё абсурдна.

Нестар Іванавіч Міхневіч

**У 20-я гады ХХ стагодзьдзя ў Ленінградзе, на Лігаўскім праспэкце, было адчыненае "Государственное Объединение Подростков" - нешта кшталту групы падоўжанага дня. Арганізацыя мела на мэце выхаваньне "цяжкіх" падлеткаў і малалетніх хуліганаў. Праз пару год - пасьля некалькіх цяжкіх злачынстваў, зьдзейсьненых выхаванцамі аб'яднаньня зь небывалай жорсткасьцю і цынізмам, - установа была зачыненая. Аднак родавы панятак, створаны ад абрэвіятуры Г.О.П., застаўся.**

# Паўстаньне ГОПаў




малюнкі: сьвятлана радзівонава

...Я і мой сябар сядзім на лаўцы ў парку Чалюскінцаў. Цёплы вечар, міма праходзіць шмат народу, раз-пораз перад вачыма зьяўляюцца ды адразу зьнікаюць прыгожыя стройныя дзяўчаты. Часьцей групамі па два-тры чалавекі праходзяць маладыя людзі ў спартовым адзеньні ды з кароткімі валасамі. Паказваю на адну з такіх групаў:
- Бачыш? Клясычныя гопнікі пайшлі.
- Клясычныя? А што, бываюць іншыя? Яны ж усе аднолькавыя.
- Э-э-э, не кажы. Гопнік - не такая ўжо простая рэч. Яны розныя бываюць. Ёсьць нават цэлая клясыфікацыя.
- Ты што! Давай з гэтага месца больш падрабязна.

## Г.О.П.-клясык




Гопнік-клясык уяўляе сабой асноўны, найбольш распаўсюджаны тып. Ён зьяўляецца пачатковым пунктам усялякай клясыфікацыі. Мабыць, вы бачылі на цёмных вуліцах групы падлеткаў, як адзін апранутых у спартовыя штаны, белыя ці сінія баскетбольныя красоўкі, майкі з "Найкамі" ды "Босамі". Круглыя, голеныя галовы хаатычна варочаюцца ў розных кірунках. Гэта клясычныя гопнікі. Зараз яны выглядаюць так, але з надыходам халадоў апрануць наверх чорныя скураныя курткі, а ўзімку замест майкі - швэдар на голае цела. На пальцах звычайна носяць пярсьцёнкі зь пячаткамі, на галовах - т.зв. "підаркі". Наяўнасьць і колер шкарпэтак ня вызначаны. Ходзяць звычайна маленькімі групамі па тры-чатыры чалавекі. Не чытаюць, хоць і ведаюць літары. Музыку слухаюць розную - дыяпазон прыблізна супадае з фарматам Рускага радыё. Часам набываюць у шапіку за вуглом аўдыёкасэты з "добрай танцавальнай музыкай" альбо зь нечым кшталту "для братвы". Паляць, ужываюць сьпіртовыя напоі. Ступень небясьпечнасьці - сярэдняя.

## Г.О.П.-жуан



Вельмі даўно, на досьвітку чалавецтва, вызначыўся гурток самцоў, для якіх асноўнай мэтай існаваньня зьяўляліся самкі. Гэта былі найбольш прадуктыўныя самцы-вытворцы. Асобы тыя не маглі ганарыцца вялікай фізычнай сілай, багатай хаткай ці салодкім голасам. А таму зьвярталі на сябе ўвагу самак прыгожым пер'ем. Пры гэтым яны не імкнуліся захапіць прыгожых дзяўчынаў, якія ў большасьці сваёй ішлі да самцоў з добрымі фізычнымі дадзенымі. Не па зубах ім былі й больш разумныя прадстаўніцы роду, што шукалі спадарожніка жыцьця па прыкметах дабрабыту - вялікае гняздо ці рахунак у банку. Вытворцы тыя задавальняліся шматлікімі сярэднімі, непрыкметнымі самачкамі. Апошнія адплачвалі ўзаемнасьцю. Таму падобнага кшталту мужыкі вельмі шырока раскідвалі свой генафонд. Прайшлі стагодзьдзі, і гэтыя асобы ператварыліся ў герояў баек і міфаў. У клясычнай літаратуры неадноичы былі апісаны такі чалавек па мянушцы Дон Жуан. Адсюль і пайшла назва віду.
Адрозьніваюцца даволі прыгожай, з гледзішча жанчынаў, зьнешнасьцю. Пераважная форма адзеньня - пінжак, нярэдка апрануты на майку (гл. вышэй) ці канарэечнага колеру гольф. Музычныя густы - аналягічныя "клясыку". Ходзяць па адным альбо (значна часьцей) разам з самкай. Ступень небясьпечнасьці даволі нізкая. Рэзка павялічваецца пасьля ўжываньня сьпіртовых напояў і ў прысутнасьці асобы процілеглага полу.

## Г.О.П.-скура



Выкарыстоўвае стандартнае адзеньне: майку ці швэдар, скураную куртку, красоўкі. Але, у адрозьненьні ад клясыкаў, носяць скураныя штаны альбо апранае куртку "а-ля касуха" са скуразамяняльніку. Гэтым самым парушаецца адзін з галоўных момантаў клясыфікацыі. Таму "скураны" гопнік зьяўляецца больш небясьпечным, чым усе вышэйапісаныя: ён можа быць перабітаны з байкерам ці мэталхэдам. У такім выпадку зьвяртайце ўвагу на астатнія рысы - доўгія валасы дапамогуць вызначыць мэталера, а сапраўдная дарагая касуха зь некалькіх слаёў тоўстай скуры - байкера. Галоўнай адрознай рысай, як і заўсёды, могуць лічыцца музычныя густы аб'екта - самыя, як ні торкні, "клясычныя".

## Г.О.П.-спартовец



Таксама вытворны ад клясычнага тыпу. Галоўныя рысы - тыя ж. Розьніца ў тым, што замест скуранай курткі ён носіць спартовую. Часам прадстаўнікі віду зьяўляюцца студэнтамі спартовай акадэміі, але гэта не пераводзіць іх у разрад студэнцтва. Крыўдна, што шмат хто з самых моцных і знакамітых нашых спартоўцаў у маладосьці быў гэткім жа. Паколькі апранутаму ў спартовае нашмат зручней рухацца, то ў выніку павялічваецца і ступень небясьпечнасьці гэтага віду.

## Г.О.П.-бык



Састарэлы тып. Некаторыя дасьледчыкі фэномэна Гопніка ня згодныя са мной у стаўленьні да гэтага віду. Справа ў тым, што астатнія віды - даволі ўстойлівая зьява, якая калі й можа эвалюцыяваць у нешта іншае, дык толькі на працягу мінімум некалькіх год. Бык жа - гэта хутчэй стан гопніка, у які можа перайсьці ці не перайсьці адзін з апісаных вышэй відаў. Усё залежыць ад наваколься і атачэньня. Назва паходзіць ад дзеяслова "быкаваць". Гэтым словам разгляданы тып называе ўсю дзейнасьць вакол сябе, якую ён ня ў стане кантраляваць.
На дадзены від трэба зьвярнуць асаблівую ўвагу, бо для яго характэрная адна адметная рыса. Як звычайны бык ня церпіць на сваёй тэрыторыі іншых самцоў, так і гопнік-бык сочыць за сваімі самкамі,назіраючы, каб ніхто да іх не наблізіўся. Пры гэтым у ролі самкі можа выступаць як самка чалавека, так і Г.О.П.-жанчына (гл. ніжэй) і нават сябар-самец - так званы "шасьцёрка". Ролю "іншага самца" можа выконваць толькі чалавек мужчынскага полу, бо пры сутыкненьні зь іншым гопнікам зьдзяйсьняецца разборка, і колішні бык альбо сыходзіць са сцэны, альбо пераходзіць у разрад "шасьцёркі". Трэба адзначыць, што гэты від быў ня толькі вельмі небясьпечны ў свой час, а яшчэ й прадстаўляў рэальную пагрозу мірным жыхарам, маёмасьці, будынкам. Але - і са мной пагодзяцца мае шматлікія калегі, - гэты від адыходзіць у мінулае. Невядома, чаму цяпер быкі зусім не такія надзьмутыя, тлустыя і мажныя, як раней. Сярэдні гопнік-бык робіцца год ад году маладзейшым, ніжэйшым ды хударлявейшым.

Гопнікаў становіцца ўсё больш. Калі Хасэ Артэга-і-Гасэт пісаў пра "паўстаньне масаў", дык у нашай краіне можна казаць пра "паўстаньне гопаў". Быць такім як усе ці быць самім сабой - гэта ўжо ты вырашай сам для сябе.

## Дадатак



Вельмі цікавы тып - Г.О.П.-жанчына. Ад вышэйапісаных адрозьніваецца звычайна першаснымі і другаснымі полавымі прыкметамі. Таксама часам па-іншаму выглядае. Але гэта - надзвычай вялікая тэма, якая патрабуе асобнага разгляду. Да таго ж, яе павінна асьвятляць жанчына-чалавек, бо ў разважаньнях пра іншы пол аўтар гэтага дасьледаваньня баіцца быць занадта перадузятым. Адзначым хіба што адзін цікавы факт - пачуцьцё прывязанасьці паміж разнаполымі гопнікамі найчасьцей прыводзіць да поўнага нівэляваньня асобы жанчыны. Яна нібыта распускаецца і губляецца ў асобе гопніка-мужчыны.



# МАРЫ
## З Б Ы В А Ю Ц Ц А



Ідэя: "CD", "Первый музыкальный канал"
Фота: Андрэй Гнёт
Стыліст: Алёна Эва

**Сяргей**
Адносіць сябе да менскіх гранжэраў "другой хвалі" - "нас было шмат, але цяльняшак на ўсіх не хапала". Зрэшты, сэканд-хэнды і танныя плякаты з Куртам зрабілі сваё - у дваццаць зь нечым пры магчымасьці настальгуе па той эпосе: nevermind...









**Люся**
Заўжды разумела творчасьць Hole і ў прозьвішчы Кортні знаходзіла глыбокі сэнс: Лав...





**Гнёт**
Ва ўзросьце 14-15 год яго прыцягвала рамантыка рэйвэрскіх вечарынак: гіганцкія танцполы на завадзкіх задворках, яркія пражэктары, сыгналы алярму і DJ - яшчэ ня Бог, але яўны дэміург.
Тады б Гнёт выглядаў менавіта так - "свойскі супэрмэн".









**Наташа**
Першыя менскія клюбэры былі надзвычай інфантыльнымі - лямпачкі, лялечкі, акулярчыкі а-ля "Пчолка Мая".
Мінула пяць год, і стала зразумела: enfant terrible.



# LONDON DREAMS

**Хочацца сьвята. Калі не бясконцага, дык хоць на хвілінку. За акном шэрае восеньскае надвор'е. Сумна.**
**А недзе далёка існуе краіна з казачнымі гарадамі, якія ўвесь год саграває сонца. Да іх мае дачыненьне і Лёндан, сталіца Аб'яднанага Каралеўства. Ты скажаш: няпраўда, Лёндан увесь час зацягнуты смугой, там бясконца ліе дождж. Магчыма, яно й так. Але паспрабуй убачыць гэты горад вачыма тых, хто ўяўляе яго менавіта такім – каляровым, поўным вясёлай моладзі й музыкі пачатку 60-х, "Лёнданам, які сьвінгуе".**

## ЧАСТКА ПЕРШАЯ. КРЫХУ ФАНТАЗІЙНАЯ

Усе мы, калі былі маленькія, ляпілі зь пяску дамы, гарады, засялялі іх лялькамі і не разумелі, што эвалюцыя дызайну нікога не абмінула. Зусім хутка мы зрабіліся дарослымі, і нашыя пясочныя дамы рассыпаліся. Але адчуваньні засталіся.

Ты адчыняеш драўляныя дзьверы кавярні "Лёндан", над якімі ўзвышаецца Біг Бэн, і разумееш: Менск застаўся ззаду, у другім вымярэньні. Няма больш шэрых вуліцаў з бруднымі ад восеньскай слоты машынамі. Ты ідзеш па каменным бруку надбярэжных Тэмзы, міма праяжджаюць чырвоныя амнібусы, рознакаляровыя аўто, людзі прыязна ўсьміхаюцца табе насустрач. І ўсё гэта табе ўжо аднекуль знаёма...

Убачыўшы недзе наперадзе аўтобус, ты імгненна даганяеш яго. Потым па лесьвіцы ўздымаесься на другі паверх і трапляеш у госьці да сапраўдных ангельцаў, якія бавяць час, папіваючы гарбату ў сваёй утульнай кватэры і павольна разважаючы пра нешта традыцыйна ангельскае. З гаўбца бачныя дахі лёнданскіх дамоў, над якімі бягуць лёгкія белыя аблокі. Усёй сваёй істотай адчуваеш атмасфэру старой добрай Брытаніі, якая тут ва ўсім: ад плеценых клятчастых пуфікаў да бітлоўскай "Жоўтай падводнай лодкі".

## ЧАСТКА ДРУГАЯ. АТМАСФЭРНАЯ

Для людзей, якія займаліся распрацоўкай інтэр'еру кавярні "Лёндан", самай складанай справай было павелічэньне прасторы з пункту гледжаньня яе найбольшай функцыянальнасьці і камфорту.



Каб стварыць атмасфэру, аптымальную для сапраўднага адпачынку, выдумалі розныя хітрыкі: часопісы на сталах, рознакаляровыя лялечныя машынкі, этыкеткі, выразкі са старых газэтаў, манэткі на сьценах.

## ЧАСТКА ТРЭЦЯЯ. ПАН АФАРМІЦЕЛЬ

**Георгі Жаркевіч**, арт-дырэктар НТТАА "Транс-Дызайн". Скончыў факультэт прамысловага дызайну Беларускай Акадэміі мастацтваў. Дызайнэр у трэцім пакаленьні. Георгі жыве ў цэнтры Менску, любіць свой горад і таму хоча зрабіць яго прыгажэйшым. Распрацоўваў дызайн вядомых усім маладым менчукам месцаў адпачынку. І ня толькі.

Ягоная фантазія знайшла ўвасабленьне ў такіх праектах, як клюб **"Magna"**, кавярня **"Стары Менск"**, **"Грунвальд"**, бар **"Духмяны"**, крама **"Big Star"**, што на вуліцы К.Маркса.

Выбіваецца з усяго гэтага шэрагу "Кавярня", якая знаходзіцца ў 7 кілямэтрах ад Менску ля ракі Пціч. Зьнешні яе выгляд добра пасуе да аўтэнтычнага беларускага навакольля: дамы зь бярвеньняў, альтанкі, дзіцячая пляцоўка з арэлямі. Дзе-нідзе на двары хаваюцца гномы: іх роўна сем, як і павінна быць у казцы. Ля маленькага фантанчыка схавалася вялізная жаба, а каля ручая - ...чарапаха. У паляўнічай хатцы гарыць комін, ад якога ідзе дзіўны пах дрэва; у більярднай ёсьць сапраўдная печ. Такое ўражаньне, нібыта ты патрапіў у старую беларускую карчму.





**– Георгі, амаль усе Вашыя праекты створаныя ў рамках гарадзкой архітэктуры й дызайну. Чаму кавярня "Лёндан" адрозьніваецца ад іншых большай свабодай афармленьня?**
- Так, астатнія больш спакойныя і стрыманыя... Я ўнёс у інтэр'ер "Лёндана" ідэю казачнасьці, мультыплікацыйнасьці. Ён атрымаўся самым ультрасучасным, з акцэнтам на будучыню. Яго дызайн ня згубіць сваёй актуальнасьці яшчэ некалькі гадоў.



**– Хто прыдумаў назву кавярні?**
- Гэта таксама была мая ідэя. Потым я сабраў усе свае ўяўленьні пра Ангельшчыну ўвогуле і яе сталіцу ў прыватнасьці. І атрымалася тое, што вы бачыце.

**– Вы былі ў сапраўдным Лёндане?**
- На жаль, не. Але абавязкова паеду, каб пацьвердзіць сваё ўяўленьне пра яго.

**– На якім этапе працы над "Лёнданам" Вы ўяўлялі сабе канчатковы вынік?**
- З самага пачатку. Вядома ж, у працэсе работы ўносіліся пэўныя карэктывы.

**– Ці можаце адкрыць некалькі прафэсійных таямніцаў, дзякуючы якім "Лёндан" атрымаўся менавіта такім, а ня іншым?**
- Ну вось, напрыклад, машынкі, што на сьценах, былі створаныя ў выніку вывучэньня фатаздымкаў старых ангельскіх аўто. Рэльеф гораду, што на другім паверсе, рабілі студэнты БелАМ.

**– Часта наведваеце тыя месцы, якія афармлялі?**
- Так, заходжу туды і як звычайны наведнік, і для таго, каб унесьці некаторыя карэктывы ў інтэр'ер, нешта адрамантаваць, калі трэба.

**ЛЯВОН ВОЛЬСКІ пра "Лёндан":**
**"Я толькі аднаго разу быў у гэтай кавярні, але лічу тамтэйшы дызайн вельмі стылёвым. Я, зрэшты, таму там і апынуўся – мяне прывабіў дызайн. Праходзіў побач і ня змог не зайсьці. Прыемная ўстанова, знаходзіцца ў вельмі добрым месцы і выгодна адрозьніваецца ад плястмасавых забягалавак з разраду "па 50".**



**– А ці прыйшлася б даспадобы кавярня "Лёндан" сапраўдным ангельцам?**
- Чаму "прыйшлася б"? Ангельцы там ужо былі. У выніку - процьма пазытыўных эмоцыяў.

**– Ці спрабавалі Вы сябе ў іншых кірунках дызайну?**
- Так. І мая дыплёмная праца ў галіне транспартнага дызайну пад назвай "Транспартная магістраль Менск - Аэрапорт-2" можа быць доказам таму.

**– Колькі пытаньняў да Вас як да дызайнэра. Якія маркі аўтамабіляў Вам падабаюцца? Якім мабільнікам карыстаецеся? Якую музыку слухаеце?**
- Ну, тут мяне можна назваць функцыяналістам. Мне даспадобы амэрыканскія і японскія аўтамабілі, незалежна ад марак. Па горадзе перасоўваюся на "Mazda" і "Fiat", але больш за ўсё люблю езьдзіць на матацыкле. Што да тэлефона... абы працаваў і быў простым у карыстаньні. Музыку слухаю самую розную - усё, апроч шансону.

**– Як хутка менчукі дачакаюцца ад Вас чарговай "бомбы"?**
- Хутка. Зараз я працую над новым праектам. Пакуль гэта сакрэтная інфармацыя. Скажу толькі, што дызайн гэтага памяшканьня, гаворачы прафэсійнай мовай,
 а) будзе мець сучасна-мадэрновую скіраванасьць;
 b) будзе распрацаваны ў рэчышчы сучасна-мадэрновай канцэпцыі;
 c) будзе вытрыманы ў сучасна-мадэрновым стылі.

**– Выдатна! Спадзяемся, што гэтая ўстанова**
**a) стане добрым месцам адпачынку;**
**b) прыйдзецца даспадобы наведнікам.**
**Як і Вашыя папярэднія праекты.**

*падрыхтавала АЛА*

# break-dance па-нашаму – "папса"

**Разглядаць фэномэны ў іх разьвіцьці – штука даволі цікавая. Начытаесься часам інтэрнэтаўскіх публікацыяў пра амэрыканскі брэйк-данс 70-х – так і карціць сустрэцца з сучаснымі бі-боямі і пашукаць на іх задуменных тварах рысы той старажытнай нэгрыцянска-бруклінскай культуры... Зь Ягорам Марозавым, мэнэджэрам менскай каманды "STREET MASTERS", і Сашам Пракаповічам, бібоем таго ж гурта, мы перасекліся ў нейкай забягалаўцы ў цэнтры Менску. Не скажу ў якой – рэкляма каштуе грошай.**

**Здарова, хлопцы. Слухайце, адразу папярэджу, што размаўляць мы будзем не канкрэтна пра "STREET MASTERS", а наагул пра культуру брэйк-дансу...**
Ягор: Вось аблом!

**Ці аблом? Пра вас ужо столькі напісана, што калі нехта і не паверыць, што вы – культавая беларуская брэйк-данс-каманда, дык будзе выглядаць як мінімум ідалаборцам.**
Я: Што ёсьць - тое ёсьць. "Самай культавай групай" нас ахрысьцілі СМІ і тэлевізія. Ды мы асабліва і не супрацоўляліся...

**Тады пачнем з элемэнтарнага. Гатовы выслухаць вашую вэрсію нараджэньня сучаснага брэйкерскага руху на дадзенай прасторы.**
Я: Усё пачалося ў 80-я, яшчэ пры саўдэпе. І было гэта, ня йначай, лёгкім захапленьнем. Хлопцы танчылі для ўласнага задавальненьня, нават не спрабуючы на гэтым зарабіць. Таму, натуральна, у 90-я гэты рух зьнік. Цалкам. Але ў Эўропе ён застаўся. І наступная хваля ўзьнялася ў 1997-м. За гэты час узровень брэйк-дансу ў Эўропе значна вырас. У 92-м (ці ў 93-м? неістотна!) у Нямеччыне зьявіўся Чэмпіянат сьвету, "Battle of the year". Напачатку ён праводзіўся ў клюбах, а потым вырас да памеру стадыёнаў. Менавіта з "Battle of the year" брэйк-данс пачаў прагрэсаваць ва ўсім сьвеце. У тым ліку і ў нас. На дадзены момант гэты "бэтл" ладзіцца ў вялізных лядовых палацах. На спаборніцтвы прыходзіць па 80.000 гледачоў.

**Добра. Але пакуль што пакінем у спакоі моду. Вось канкрэтна вы – для чаго вы гэтым займаецеся?**
Я: Найперш - для ўласнага задавальненьня.
Саша: Проста адзін са спосабаў выразіць сябе. І паказаць людзям, што брэйк-данс - гэта вельмі прыгожа.

**Вось ты сам і закрануў адвечную дылему. Дык усё-ткі для сябе ці для людзей?**
Я: Глядзі. Быў у 70-я гады бруклінскі брэйк-данс. Проста на вуліцы людзі станавіліся паўколам, па чарзе выходзілі ў цэнтар і паказвалі, хто на што здольны. І дзе зараз той брэйк? Вядома, яго памятаюць, але памятаюць толькі на словах.
С: Цяперашні брэйк-данс перадусім арыентуецца на публіку. Ён нашмат больш відовішчны, цікавы, складаны.
Я: Дый узровень непараўнальна вырас.



**З вашых словаў вынікае, што 80-я былі гэткім андэрграўндам, а вы – ужо мэйнстрым. Ці значыць гэта, што вы імкнецеся камэрцыялізаваць брэйк-данс?**
Я: Абавязкова. Не скажу, што ўжо цяпер гэта бізнэс, але мы якраз і спрабуем зрабіць яго часткай шоўбізу. Да сёньняшняга часу брэйк-данс у Беларусі асацыюецца з групай школьнікаў, якім папросту няма чым заняцца. А па сутнасьці, ёсьць рэальныя прафэсійныя каманды, якія шмат трэніруюцца і хочуць гэтым зарабляць. І самае цікавае, што зарабляюць. Няхай пакуль невялікія грошы, але ўсё наперадзе.

**Не баіцеся стаць папсой, другім балетам "Тодэс"?**
Я: А мы ўжо такімі сталі. Прынамсі, калі меркаваць па стаўленьні да нас іншых камандаў. "STREET MASTERS" лічыцца камандай ПАП-СО-ВАЙ.

**І што? Вам гэта падабаецца?**
С: Не падабаецца. Але любая крытыка карысная.

**Стоп! Дык усё-ткі вы ўспрымаеце гэта як крытыку альбо імкнецеся да гэтага?**
Я: У прынцыпе, імкнемся. Мы імкнемся зарабляць грошы, а андэрграўндам на жыцьцё не заробіш.
С: Таму трэба, каб найперш было цікава гледачу. Бо ня кожны здольны пранікнуцца тэхнікай нашага танцу. А шоў робіць танец больш зразумелым, даступным.
Я: Вось мы выступаем на Дні міліцыі ці, скажам, перад беспрытульнымі дзецьмі. Публіка вельмі розная, але ўсе нас разумеюць.
С: Ага, аднаго разу нават у гей-клюбе выступалі...

**Гэткія папсавікі-забаўнікі?**
Я: Бачыш, гэта палка з двума канцамі. Скажам, Б.Сьпірс "пераварваюць" многія. Але і "STREET MASTERS" "ядуць" з задавальненьнем. Іншая рэч, што, у адрозьненьні ад Брытні, за плячыма ў якой апроч грошай нічога няма, мы прасоўваем у масы пэўную культуру. Пад намі даволі моцная аснова. Разумееш, ёсьць папса, а ёсьць - папса.
С: Дый як ты будзеш прасоўваць культуру ў масы, седзячы ў з... ну, у андэрграўндзе? Як зробіш, каб твой танец зачапіў як мага больш людзей? А так - убачаць па тэлеку: "Во, брэйкеры! Файна круцяцца... А ну я паспрабую!"

**Наколькі важны ў сучасным брэйк-дансе элемэнт мультыкультурнасьці? Прыходзіць, скажам, у вашую каманду майстар спорту па гімнастыцы. І ўносіць у танец нейкія свае, новыя элемэнты. Ці вітаюцца гэткія наватарствы?**
Я: Так, вітаюцца. Але адсоткаў на восемдзесят мы ўсё роўна танчым брэйк-данс. Калі ты нечым займаўся раней, ты можаш унесьці ў агульны кацёл нешта сваё. Але нават калі ты грэка-рымскі барэц, усё адно мусіш перабудавацца. Гэта як у фігурным катаньні - ніхто яшчэ не спрабаваў танчыць без канькоў.

**Добра. На 80% гэта клясычны брэйк-данс. А як з астатнімі дваццацьцю? Што вы робіце такое, чаго да вас не было?**
Я: Можа, гэта прагучыць занадта патасна, але мы робім моду на брэйк-данс-шоў. Два гады запар займаем на беларускіх чэмпіянатах першае месца ў намінацыі "лепшае шоў". Музыка таксама недзе на 80% брэйкерская, а на 20% - зусім іншая. Гэта можа быць і рок-н-рол, і Джэксан, і... што заўгодна.
С: У бібоінгу, як і ў той жа гімнастыцы, ёсьць пэўныя базавыя элемэнты. Але ёсьць і вольная праграма. Напрыклад, "галава". Круціцца на галаве ўмеюць усе. Іншая справа, як ты пакруцісься - у "бочку" зьвернесься, у "цьвік" выйдзеш... Можна пры гэтым нават распрануцца, а потым - апрануцца.
Я: Так, фізычна складаных элемэнтаў шмат. Але самае цяжкае - гэта стайл-элемэнты. Іх ты прыдумляеш сам. Тут мала адной "сілавухі", трэба пакруціць мазгамі.

**А ці не баіцеся, што брэйк-данс пасьля чарговага буму зноў возьме і сыдзе ў падпольле?**
Я: Наўрад ці. Занадта далёка зайшлі. Там, дзе замяшаныя грошы і шоў-бізнэс, нічога бясьсьледна не зьнікае. Згодны, зараз назіраецца пэўны спад, але тлумачыцца ён проста. Недзе ў 2000-м рух сабраў максымальную колькасьць людзей, і цяпер ідзе адсейваньне. Праца на якасьць. Ужо ёсьць людзі, якім гэта надакучыла, якія проста фізычна не вытрымліваюць. Застаюцца самыя моцныя і насамрэч "хворыя". У добрым сэнсе слова.

**Што такое "STREET MASTERS" у параўнаньні з сусьветнай рэвалюцыяй? Ці лічыце вы сябе камандай глябальнага маштабу?**
Я: Далёка яшчэ да сусьветнага ўзроўню...
С: Мы толькі пачалі. Стаім, так бы мовіць, на першай прыступцы. Але хоць выйграваць міжнародныя чэмпіянаты мы, мабыць, пакуль ня можам, але сябе паказаць ужо здольныя.

**Ну і як бы вы пасьля ўсяго гэтага акрэсьлілі, што такое для вас брэйк-данс?**
С: Для мяне - мастацтва. І, адпаведна, стыль жыцьця.
Я: Проста адзін з кірункаў поп-культуры. Абыйдземся безь ярлыкоў.

**Ок! Што трэба рабіць, каб стаць бі-боем?**
Я: Пахаць. Захварэць на гэта і пахаць. Ну і добрая фізычная падрыхтоўка таксама не зашкодзіць. Усё-ткі брэйк-данс - нешта сярэдняе паміж спортам і танцам. Дакладней, адначасова і танец, і спорт. Вымагае вялікіх фізычных нагрузак, але і бяз творчасьці тут - ніяк.

"STREET MASTERS": Менская брэйк-данс-каманда. Афіцыйная дата заснаваньня – 15 сакавіка 2000 г. Назву адваявалі ў чэсным "бэтле" з аднайменным брэйкерскім гуртом. Геаграфія выступаў: Менск, Гародня, Берасьце, Магілёў, Гомель, Віцебск, Пецярбург, Лодзь, Калінінград, Вільня і г.д. Рэгаліі: "BATTLE OF BELARUS 2000" (дыплём за лепшае шоў), "BELARUS B-session" (лепшае шоў), "IV адкрыты конкурс па цырульным мастацтве" (лепшае шоў мадэляў), "ЗЕРКАЛО УЛИЦ" (сьціпла – "арганізатары фэсту").

# ВАЛЬЖЫНА МОРТ
## як яна ёсьць

**Пра Вальжыну Морт я ўпершыню пачуў задоўга да асабістага знаёмства зь ёю і яе тэкстамі. Пачуў шмат ад каго. Неяк усе адначасова загаварылі пра фантастычную аўтарку, што столькі абяцае беларускай літаратуры. Я спрабаваў уявіць сабе беларускую Сапфо, Жорж Санд, Эмілі Дыкінсан, трох сясьцёр Бронтэ ў адным фляконе альбо хоць якую самую занядбаную Мэры Шэлі. Атрымліваўся хутчэй мэрышэлеўскі ФРАНКЕНШТЭЙН. Зыходзячы з псэўданіму, я чакаў убачыць перад сабою жанчыну ў чорным плашчы з капюшонам і з вострай касою. Пабачыў жа крохкую дзяўчынку, якую хочацца ўзяць на рукі й захінуць ад варожага сьвету, поўнага сэрыйных забойцаў, гвалтаўнікоў і людзей, абыякавых да паэзіі. Падчас адной літаратурнай нарады я кінуўся абараняць паэтку ад крытыкі прызнанага літаратурнага мэтра, хоць у абароне не было ніякай патрэбы, бо й мэтр гэны, здаецца, быў зачараваны. Яе выступ быў ВЫБУХАМ ЭНЭРГІІ, ВЫКЛІКАМ, ПРАВАКАЦЫЯЙ, яўным ХУЛІГАНСТВАМ, ледзь ня ЗЬДЗЕКАМ З ПУБЛІКІ, калі сядзіш агаломшаны, уражаны, каб не сказаць "абражаны" – і хочацца крычаць: "Яшчэ! Яшчэ!"**
**Яе сапраўднае прозьвішча – Мартынава – нагадвае пра трагічны фінал Лермантава. Яе псэўданім перакладаецца з францускай мовы як МЁРТВАЯ. Эсэіст Юрась Барысевіч тлумачыць гэта тым, што, мабыць, у школе яе параехала МАКСІМАМ ТАНКАМ. У дадатак да ўсяго, гэта яна прышчапіла нашай паэзіі новы стыль, які я называю КАКЕТЛІВЫМ ДЗЯВОЧЫМ СУІЦЫДАМ. Эстэтыка скандальных і трагічных расейскіх рок-паэтак – усіх гэтых дзягілевых, арэф'евых і зэмфіраў – выгодна атабарылася ў вальжыніных вершах, якія проста просяцца быць пакладзенымі на музыку. Гэта яна знайшла адказ на балючае пытаньне Станіслава Ежы Леца: "Ну, добра. Ты праб'еш галавою дзірку ў сьцяне. Але ШТО ТЫ БУДЗЕШ РАБІЦЬ У СУСЕДНЯЙ КАМЭРЫ?" Знайшла, стварыўшы тэкст "Больніца" – відаць, самы знакаміты твор маладой беларускай паэзіі.**
**Пакінуўшы пасьля сябе некалькіх эпігонак, яна, здаецца, астыла да вершаскладаньня й адчула ў сабе сталасьць, дастатковую для пісаньня прозы. Што ж, як на празаіка, яна па-ранейшаму выглядае ненармальна юнай дзяўчынкаю й па-ранейшаму выклікае жаданьне насіць яе на руках і абараняць ад варожага сьвету.**

Вальжына Морт
## ФРАГМЭНТЫ З РАМАНУ

Адзінае, што вам трэба зразумець і засвоіць, гэта тое, што я не зьбіраюся апавядаць пра нешта асаблівае, - хопіць адкрыцьцяў, дастаткова новых імёнаў. Ніякіх навінак.

- Вальжына складае вершы ?

О не, шаноўнае спадарства, час сказаць сарамліваму шаленству - бывай! Вы прамаўляеце сваё пытаньне такім тонам, быццам жадаеце даведацца: "Вальжына езьдзіць на Запарожцы?"
Вы пытаеце пра гэта на вуліцы, у краме, у мэтро, па тэлефоне, у кіно, у каледжы, з экрана тэлевізара і ў радыёэтэры, дасылаеце сваё пытаньне тэлеграмай, на аўдыёкасэце, друкуеце яго на інструкцыях па выкарыстаньні швейных машынак, выпечцы тартоў і булак. Вам тэрмінова патрэбны адказ. Падчас любой сустрэчы, не зьвяртаючы ўвагі на тэму размовы, - спорт, сэкс, музыка, палітыка - усё роўна спытаеце адно і тое ж.

- Кстати, стихи ещё пишешь?

Але адказаць такім людзям, як вы: "Так, я паэтка"- тое самае, што сказаць: "Так, гэта я пукнула падчас канцэрту, калі аркестар выконваў "Раманс", што пачынаецца з ноты сі, Людвіга Бэтховэна, які нарадзіўся ў 1758 годзе".
Заўважце - якая нявыхаванасьць! І я буду рабіць так зноў і зноў, і буду ўсьведамляць сваю віну ўсюды, дзе мы ходзім з вамі побач плячо да пляча, дзе глядзім адно аднаму ў твар, дзе палім і п'ем, і там, дзе піць і паліць забараняецца. Там, дзе мы проста дыхаем агульным паветрам, дакранаемся да рэцэптараў на аголенай скуры. І дзе нам надзіва ня страшна ад таго, наколькі мы ня ведаем адно аднаго, наколькі не разумеем чужых памкненьняў, баімся жывых жаданьняў. І няма ніводнай справы, якую мы б маглі рабіць разам, ніводнага месца, дзе можна было б сустрэцца, ніводнай мовы, на якой бы змаглі размаўляць больш за два чалавекі. Мы настолькі далёкія ад сапраўднага сэнсу чужых словаў, матываў і ўчынкаў, што адзінае, што нам застаецца зрабіць - гэта вынішчыць саміх сябе паасобку, пакуль нас ня зьнішчыла ласка іншых. Мы хаваемся адно ад аднаго пад слаямі моднай вопраткі, але, калі зьняць яе ўраз, то ўсе адразу ўбачаць, што нашае цела - хлусьня. Яго няма. Пад гэтай вопраткай - пустэча. Трохпакаёвая кватэра замест галавы, штодзённая праца замест рук, запасы на будучыню замест грудзей, страх быць згвалтаваным замест чэлеса.
Для таго, каб пра цябе пачалі размаўляць, трэба толькі адысьці на колькі крокаў, павярнуцца ў процілеглы бок - і тваю хлусьню заглыне чужая хлусьня. Словы, якія ты казаў хвіліну таму і якія ўсе слухалі, ківаючы галовамі, ізноў узгадаюць, каб зьняць зь іх штаны, паставіць ракам і гвалтаваць. Гвалтаваць, заклапочана азіраючыся, - ці не зьбіраесься ты вярнуцца, ці не глядзіш краем вока на тое, што робяць з тым, што ты прынёс. Тваю ўласную бялізну распусьцяць на ніткі, зьняўшы спачатку адбіткі пальцаў, каб ведаць, хто дакранаўся да цябе апошнія некалькі гадзінаў. Калі хочаш, каб цябе пакінулі ў спакоі, - пакліч на дапамогу. Я выпускаю зараз сьліні сваёй жоўці, боўтаюся ў сусьветным лайне і ляплю зь яго сваіх стойкіх адважных салдацікаў, таму што вы ніколі ня думалі, што, паціскаючы вам руку, я, мабыць, хацела б, каб на яе месцы была вашая шыя. І той незнаёмы чалавек, што так нечакана выняў з кішэняў квіток на праезд, мабыць, жадаў бы дастаць аўтамат і расстраляць усё навакольле.
Але finis. Я хаваюся, і гэта вашая чарга лічыць да ста. І пакуль вы будзеце перабірацца зь лічбы на лічбу з заплюшчанымі вачыма, хто ведае, што адбудзецца на Зямлі - разбуральныя землятрусы, другое прышэсьце, чума, ледавік, рэвалюцыя - а я ўсё буду мітусіцца, перабягаючы з аднаго месца ў другое, і крычаць вам: "Чакайце, спадару мажорны Жэўжык! Я яшчэ не схавалася!"

- Так Вальжына піша вершы?
- Не.

/.../
Зімой сустрэчы прызначаюцца на пяць, шэсьць гадзінаў - не пазьней. Мы гуляем, то хутчэй, то павольней, потым сьпяшаемся ў цёплую кватэру, распранаем адно аднаго на канапе, разьмінаемся пад гукі апошніх навінаў па тэлебачаньні, і ты бяжыш на кухню смажыць пяльмені. Я слухаю, як яны трашчаць на патэльні, бы сапраўдны сьнег у нас пад нагамі. А калі ты вяртаесься, мы вячэраем і пераходзім да абавязковай праграмы, потым - да вольнай, потым - на біс, потым - яшчэ нешта, потым - нічога ня памятаю.
А праз некалькі дзён - адліга. Лужыны разьліваюцца па тратуарах, нібы акіяны. Сонца ліецца, як зь вядра. Менск раскрывае свае карты. Насьцеж! Ён заходзіць надпісам "придерживайте двери" на дзьвярах крамаў, адбівае грукатам тралейбусаў, кладзе зьверху вялізных галодных галубоў, дае ў дадатак Марата Казея і ўнівэрсам "Цэнтральны". Ён набірае з калоды Акадэмію музыкі, словы "у меня нет сдачи" і халодныя-халодныя слухаўкі вулічных тэлефонаў, бяспройгрышна ідзе сустрэчамі пад гадзіньнікам ля Макдональдсу, зьверху - канцэрт БГ кожны красавік.

/.../
Можна было б ніколі не прысутнічаць пры жыцьці той жанчыны, што прымала групу замежных літаратараў на другім паверсе літаратурнага музэю... Яна паўтарала і перапаўтарала імя Коласа столькі разоў, што калі б мы сабралі ўсіх іх разам і скляпалі з тых Коласаў лесьвіцу, то па яе прыступках здолелі б дабрацца да Марса, і, мабыць, нам бы яшчэ хапіла на якое-ніякое жытло, і лазьню, і венікі, і штампы ў пашпартах.
З абыякавай непрыязнасьцю я назірала за тым, як яна карміла нас толькі таму, што словы "карміць" і "Колас" пачынаюцца з адной літары, сьпявала, таму што "Колас" і "голас" рыфмуюцца, часам выходзіла мачыцца, таму што нішто чалавечае было яму не чужое. Яна размаўляла на мілагучнай беларускай мове, якую ніхто з замежнікаў не разумеў, і яны з пэўным сарказмам адказвалі ёй невядома што на сваёй мове, а яна гасьцінна ўсьміхалася, быццам кажучы: "У нашым музэі няма межаў для камунікацыі".
Я не была пачэсным госьцем і, седзячы на ўскрайку, піла гарбату з цукеркамі, намагаючыся не ўзьнімаць вачэй ні на гасьцей, ні на гаспадыню і не апускаць іх да ўзроўню кіліма, стаптанага хірымі нагамі музэйных

служывак. Пасярод залі сядзелі вядомыя адзін аднаму беларускія пісьменьнікі. І пакуль мой позірк, як цыркач, балянсаваў паміж падлогай і сьценамі, яны намагаліся кланаваць беларускую літаратуру. Яны так трызьнелі кланаваць яе, быццам ніколі ня бачылі свайго адбітку ў люстэрку, ніколі ня чулі свой голас, ніколі не чыталі сваіх твораў і таму ня ведалі, што спачатку трэба кланаваць іх саміх. Яны былі здохлыя, і трэба было дачакацца другога прышэсьця, каб зрабіць замову на ўваскрашэньне хаця б тых, у каго было больш за ўсіх публікацыяў. Яны здохлі і жылі ўсе разам у створаным імі раі адасоблена ад тых, хто ніколі не пісаў раманы і не друкаваўся ў часопісах, якія яны чытаюць. Яны жылі літаратурай. І за ўсё сваё жыцьцё не зрабілі ані кроку, нават ня плюнулі за яе межы. У размовах яны цыталі самі сябе (яны казалі: "Як я напісаў у артыкуле/вершы/рамане, які надрукаваны/надрукуюць у часопісе/газэце/альманаху/зборніку твораў) і пры кожным зручным моманце прагнулі паказаць, наколькі яны разумнейшыя за астатніх. Падчас іх размоваў у мяне складалася ўражаньне, што яны ня чуюць адзін аднаго. Кожны выдаваў свой асабісты маналёг Гамлета, робячы выгляд, быццам яго прамову трансьлююць на ўсю плянэту, і людзі, што жывуць уніз галавою на другім баку зямнога шара, ад сыйшоўшага на іх адкрыцьця адрываюцца ад паверхні і падаюць у адкрыты космас. І тут, менавіта тут, у гэтым грэбаным музэі, сярод сініх мерцьвякоў я зразумела, што я шчасьлівая. Я зразумела, наколькі я шчасьлівая ад таго, што не жадаю быць разумнейшай ні за аднаго зь іх, што не хачу быць разумнейшай нават за прыбіральніцу, што прыйдзе сюды мыць і пыласосіць, калі сустрэча скончыцца. Я была шчасьлівая ад таго, што трызьнела быць, як усе. Як усе, хто ня змог прыйсьці і ніколі б не прыйшоў на гэтую сустрэчу.
Нехта дакрануўся да майго пляча і сказаў:
- Малайчына. У мяне таксама зь дзяцінства рукі сьвярбелі пісаць.
- У мяне рукі не сьвярбяць. Я іх мыю разоў дзесяць на дзень. Вам таксама раю. У скрайнім выпадку зьвярніцеся ў скурна-вэнэрычны.

/.../
Час зьбягае адсюль, як уцякач. Пакідае недаведзеныя да канца справы, незачыненыя дзьверы, недацалаваныя вусны. Над разьлітай гарбатай ракі назаўжды застыла палавая ануча неба. Менск - гэта тэлевізар, які забыліся выключыць у сьпешцы ад'езду. Тысячы знакамітасьцяў, сусьветнапрызнаных куміраў мільгаюць на экране перад апусьцелай кіназаляй. У адных галовы ўзьнятыя высока ўгару, шыі падкрэсьлена аголеныя. Яны ідуць, не кранаючы абуткам асфальту, не пакідаючы ценю. У іх - эксклюзіўны голас, які яны адцэджваюць па кроплі, быццам гэта шыкоўная парфума. Іншыя - глядзяць ва ўсе бакі, лезуць ва ўсе дзіркі - дзе яшчэ можна нагадаць пра сваю асобу, пакінуць сваю метку.
Тут не бывае прамых этэраў - усё, што адбываецца, было складзена і зьнята раней, таму ўсялякае цяперашняе належыць толькі мінуламу. Цяперашняе не атрымаеш проста так, яго трэба заслужыць. Мінулае выдае яго людзям па кавалках, як цукар цыркавым жывёлам. Трэба прачнуцца, узьняцца з ложку, пляснуць колькі вады на твар і колькі ў кубак, адчыніць дзьверы - зачыніць дзьверы, каб выйсьці з дому, адчыніць дзьверы - зачыніць дзьверы, каб трапіць на працу, і атрымаць за гэта свой паёк цяперашняга.

Я пераключаю горад з вуліцы на вуліцу, пераходжу яго ўздоўж і ўпоперак, назіраю, вынюхваю, вывучаю, падслухваю. Я даўлюся гэтым горадам, трахаюся зь ім, як з аблезлым сабакам, і напрыканцы ён усё роўна выяўляе мне сваю адзіную якасьць: колькі ні хадзі па доўгіх тратуарах, колькі ні спатыкайся аб нізенькія бардзюры - усё адно, калі спынісься і задумаесься, ты ня здолееш узгадаць ніводнага будынка, ніводнага дрэва, помніка або чалавека. Ты будзеш ня ў стане аднавіць у сваёй памяці анічога з убачанага ў гэтым горадзе; і ад безвыходнасьці і бездапаможнасьці захочацца рваць на галаве валасы, біцца аб зямлю, крычаць, зрываючы глотку, а птушкі ўсё будуць марудна лётаць над табою, махаючы крыламі, як сурдаперакладчыкі Бога.
Вярнуўшыся ў гэты горад, я адчуваю сябе жывым сэрцам, зьмешчаным у мэталёвым робаце. Робат трапляе пад моцны дождж і ржавее, а я працягваю жыць у целе, што памерла, хоць і ніколі не было жывым. Яно не дае мне прыпыніцца ні на хвіліну, сказаць уголас тое, над чым думала заўсёды, не дазваляе наблізіцца да таго месца, дзе мая старая недаспалая маці чакае наступнага аўтобуса. Ранак, брудны і сьмярдзючы, хістаецца па старых вуліцах. Людзі побач перамінаюцца з нагі на нагу, калупаюць думкамі ўбачаныя ўначы сны, і маёй маці здаецца, што Зямля круціцца дакладна так, як бялізна ў пральнай машыне ўчора ўвечары. Ёй хочацца знайсьці кнопку stop і націснуць на яе, каб нарэшце адпачыць ад бясконцых клопатаў, працы і поту, але падыходзіць перапоўнены аўтобус. Людзі гвалтам ціснуцца ў вузкі праход дзьвярэй, кідаюць адзін у аднаго камяні словаў. Мая маленькая маці прыстасоўваецца на апошняй прыступцы аўтобуса, але нехта з усяе моцы пхае яе ў жывот, і яна падае на асфальт, аглушаная і асьлепленая невядомым ёй болем. Як рыбіна, якую вынулі з вады і кінулі на распалены пясок, яна пачынае глытаць паветра вялікімі порцыямі, бы гарачую гарбату, круглымі вачыма калясіць вакол у пошуках таго, дзеля чаго яна магла б выжыць. Ціхі матчын страх перадаецца мне па прывідным тэлеграфе пупавіны, і я пачынаю па-малечы сьмяяцца.

/.../
У мяне трыпэр. Ратуй, Божа! Ужо дзён гэтак пяць адчуваю - ён, больш нічога. Мабыць, так звалі лекара-немца, што вынайшаў гэтую хваробу ў сваім лябараторным пакоі - Hans Tripper. Ідэальнае прозьвішча для чалавека з вышэйшай адукацыяй. Зь мінімальнай колькасьці літараў змайстравана аптымальнае гучаньне. Альбо гэта ад ангельскага слова trip - вандроўка, якое якраз пасуе да назвы заразы, што вандруе зь цела ў цела.
Але, па вялікім рахунку, чаму зараза? Кажучы шчыра, я ня вельмі хвалююся. Некалькі доўгіх месяцаў прайшлі ў разладзе з самой сабою, у непаразуменьнях з тым, што адбываецца навокал, але трыпэр супакоіў і ўраўнаважыў маё жыцьцё. Ён аказаўся тым ключом, які адчыніў перада мною ўсе дзьверы. Я больш ня думаю аб тым, як лепш збудаваць сказ, што ўзгадаць, а што пакінуць па-за радкамі. Трыпэр - гэта мая самадастатковасьць. Вэнэрычная хвароба дорыць жанчыне пачуцьцё ўлады і пэўнага калярыту ад адчуваньня таго, што ў адным з пакояў яе залатога палаца хаваецца сапраўдная пачвара.
Уначы, каля паловы на першую, тэлефануе Іван.
Я скачу вышэй за столь - гэта цуд, які ён п'яны! Не размаўляе, а займаецца перацягваньнем канату: на адным канцы - Іван, на іншым - Іванавы словы. Ноч плыве за акном, спатыкаючыся аб верхавіны дрэваў, і галіны гойдаюцца ў сьне. Я прагну ўзгадаць, што я зрабіла за дзень. Пэўна, нічога. Я чакаю выніку, калі Іван узарве гэтае напружанае маўчаньне, і словы сарвуцца, як спалоханыя коні, каб панесьці яго за сабою праз полымя, ваду і каменьне, супраць ветру, розуму і самога сябе. Калі словы будуць кідаць яго ва ўсе бакі, разьбіваючы белую галаву да крыві, калі будуць без разбору апускаць на зямлю і ўзьнімаць, як стужку, прывязаную да конскага хваста /.../.
Сёньня ён можа скардзіцца да непрытомнасьці. Сёньня ён здолеў перацягнуць канат на свой бок. Ён перамог, і я, здаецца, бачу, як ён трымае слухаўку тэлефона, непамерна цяжкую для яго танцавальных рук, так, быццам гэта алімпійскі агонь ці кубак сьвету. Пераможная ўсьмешка хістаецца на яго твары, як галіны дрэваў за акном. Гэтая ўсьмешка сарамлівая і нехлямяжая, і яе можна спужаць любым нечаканым рухам, бы малое кацяня.
Сёньня ён - пераможца. Правадыр сваіх словаў, ён цягне іх, што батрак, каб нарэшце кінуць да маіх цёплых ног.
- Вальжына, я зараз на дні народзінаў у Ільлі. Прыяжджай. Так, гэта патрэбна. Ах, так. Позна. Значыць, я сам за табою заеду.
Твае п'яныя словы - гэта кароста, сьверб. Ты ледзь стрымліваеш сябе, каб не расчухаць, не разадраць іх да крыві.
Я чую, як ты пытаеш у ледзь чутных галасоў на іншым канцы провада, у каго ёсьць грошы на таксоўку. Яшчэ раз перапытваеш, злуесься, крычыш, равеш, плачаш, енчыш. Я прашу, каб хто-небудзь паехаў з табою, бо сам ты наўрад ці зробіш і дзясятак крокаў, не паваліўшыся. Нехта рухаецца каля самай слухаўкі.

Няўжо ты ня чуеш, што я не адна, што мая раўнівая хвароба прыкрывае мой рот?
- Вальжына, вымаўляй як сьлед. Хто ў цябе? Хто? Скажы яшчэ раз. Ну! Хто? Хто? Хто? ... Слухай, зачыні яго ў ваннай або прывяжы да ножкі ложка. Чула?

Божа! Божа! Божа! Ратуй мяне, Божа! Хлеба нашага штодзённага дай мне сёньня і адпусьці мне грахі мае, як я адпускаю вінаваўцам сваім. І ня ўводзь мяне ў спакусу. Божа! Ён вырашыў, што трыпэр - гэта парода сабак.

**Прадмова й выбар Андрэя Хадановіча**





## Гарыла

Гэты прымат выклікае надзіва бурны экстаз у дзеячоў палітыкі й шоўбізу. Адны толькі гурты, у назвах якіх фігуруе Г, можна пералічваць гадзінамі. Сярод культавых - вугорскія сайкабільшчыкі Gorilla, амэрыканскія хардкораўцы і стрэйт-эйджаўцы Gorilla Biscuits, славуты мульцяшна-віртуальны Gorillaz (са стомленым ад Blur Дэйманам Албарнам у галоўнай ролі). Альбо кліп, які ўзьняў Bloodhound Gang з прадоньняў амэрыканскіх гаражоў на вяршыню славы, ці несканчоная "Плянэта малпаў" у розных інтэрпрэтацыях, але з адным нязьменна малааптымістычным фіналам.
У XX ст. Г стала ўвасабленьнем дзікай прыроды, існаваньне якой указвае на нізкую сутнасьць эўрапейска-амэрыканскай цывілізацыі. Незайздросны лёс Кінг-Конга сярод нью-ёрскіх хмарачосаў - гэта выдатная дэманстрацыя таго, на што насамрэч здольныя "цывілізатары": "замочаць" сваіх родных "малодшых братоў" (а кроўную сувязь людзей і малпаў Чарльз Дарвін сьцьвердзіў яшчэ ў пазамінулым стагодзьдзі) і вокам не міргнуць. А чаго вартыя Г-авыя вочы, якія выпраменьваюць сусьветны жаль і дакор чалавецтву! Яны надаюць супрацьстаяньню "прырода - цывілізацыя" большую трагічнасьць...
Адзначым, што праціўнікі глябалізацыі кшталту "Дзікі Захад" ходзяць у бой пад штандарамі, упрыгожанымі выявамі прадстаўнікоў клясы прыматаў. Тэрарыстычная групоўка "Gorilla Warface" з Бліжняга Ўсходу ярка прадэманстравала сваю непрыязь да амэрыканскага ладу жыцьця падрывам у 1982 годзе аўтобуса, дзе ехалі ні ў чым не вінаватыя - хоць і на моцным падпітку - рок-н-рольшчыкі.

## Гамон

У менскім бамондзе прынята лічыць, што гэта Лявон Вольскі ўвёў наватвор у актыўны ўжытак (супэркароткім энэрэмаўскім гітом "Нам усім Г!"). Усьцешаныя распаўсюдам слоўца, міністры NRM некаторы час урачыста абвяшчалі пра адкрыцьцё радыё "Г". Праект напаткаў адпаведны назве лёс, аднак лаўры словатворцы сп. Вольскі ўсё ж скасіў.
І толькі выхадцы з Поўначы краіны яшчэ памятаюць, як іхныя бабулі актыўна ўжывалі тэрмін Г, спрытна завіхаючыся каля печы. Этымалёгія слова гранічна зацёртая, таму яно актыўна карэлюе зь іншымі тэрмінамі: "гаманіць", "гамавец" (гібрыдны варыянт - "гаманец"), "Gaumont" (гібрыд - "Г пікчэрс").
Сэмантыка тэрміну, наадварот, гранічна ясная і адпавядае значэньню расейскага "п*ц". Паказальныя ў гэтым сэнсе словы, зь якімі Г рыфмуе беларускі паэт-праўдаруб С.Сокалаў-Воюш у "Слоўніку свабоды" - "амон" і "шмон". Яшчэ адно - біялягічнае - значэньне тэрміну чамусьці ўзгадваецца рэдка. Але заўважце, як вызнае Г-ы "Біялягічны Энцыклапэдычны слоўнік" (1986): рэчывы, што выдзяляюцца полавымі клеткамі й спрыяюць сустрэчы спэрматазоіда зь яйцаклеткай. А вы кажаце - Г: усё толькі пачынаецца!

## Гэлахеры

Браты Ноэл (Noel Thomas Gallagher, 1967) і Лайм (Liam John Gallagher, 1972) былі да пэўнага часу звычайнымі манчэстэрскімі падлеткамі. Але менавіта ім было наканавана распачаць другое прышэсьце брытанскага року.
Апошні ў пачатку 1990-х актыўна губляў свае пазыцыі на сусьветным рынку, заваяваным амэрыканцамі на чале зь Nirvana ды Pearl Jam - гранж валіў па ўсім сьвеце на ўсю іванаўскую. Каралеўская сям'я на чале зь Вікторыяй была ў трансе - "дзе тыя старыя добрыя "пісталеты"?
Але трэба ведаць, якія контры існуюць паміж арыстакратычнай Ангельшчынай і дэгенэратыўнай Амэрыкай за ўплыў на сусьвет, каб зразумець, чаму Oasis разам з Blur сталіся "новымі тварамі" брыт-року. Іх кінуліся падтрымліваць усе вядомыя эўрапейскія лэйблы. Калі ж прыгледзецца да "твараў", то робіцца відавочным, што на іх праступае даволі-ткі глыбокае маршчыньне мэлёдыкі Beatles і брытанскіх песенных структураў Jam і Kinks, прыпудранае брутальным іміджам Rolling Stones і Who - і ўсё гэта ўвенчвае задзірлівая насьмешка бунтарскіх Sex Pistols.
Такая грымучая сумесь выбухнула даволі гучна - увесь сьвет загаварыў пра новы стыль, напрамак, фармацыю - брыт-поп. Даверлівыя мэляманы рынуліся ў музычныя крамы - дзякуй богу, пасьля красавіка 1994 Nirvana Oasis'у не была канкурэнтам: ужо першыя сынглы Г сягнулі вяршыняў гіт-парадаў, а "Live Forever" з фатаздымкам дому, дзе вырас Джон Ленан, зацьвердзіла каманду як апалягета брыт-попу і заняла вяршыню Top 40. Загаварылі пра культавасьць Г.
Першы поўнафарматны альбом "Definitely Maybe" (1994) стаў самым хуткараспрададзеным дэбютам у брытанскай гісторыі, а другі - "What's the Story Morning Glory?" (1995) - апроч званьня "№ 1 у Вялікабрытаніі" стаў нумарам 2 па хуткасьцях продажаў у сьвеце (пасьля "Bad" Майкла Джэксана) і ў выніку дасягнуў статусу пяціразова плятынавага.
Паколькі пасьля кожнага ўзьлёту непазьбежнае падзеньне, Г задумаліся, чым апрача музыкі можна "ўзяць" публіку. Адказ відавочны - скандальным іміджам, які мусіў бы выбіцца з агульнай шэрасьці стэрыльнай эпохі барацьбы з AIDS'ам. Непрыхаваная прыхільнасьць Г да наркотыкаў і алькаголю, пастаянныя канфлікты з папарацы, а заадно - з брыт-поп-калегамі (чаго вартае толькі пажаданьне Дэйману Албарну з Blur памерці ад СНІДу) і з уласным лэйблам "Creation Rec" толькі падагравалі інтарэс да каманды. Склад гурта мяняецца, Г скатваюцца ледзь не да мардабою - то бок усё як мае быць! Але час мінае, таму чарговы распад Oasis цягне на слабенькую PR-акцыю. Публічнасьць ужо сытая фірмовым вінэгрэтам "Oasis", замяшаным на брыдкаслоўі Ноэла і ванітах Лайма. І, перасунуўшы гурт з разраду цікавых сьмяротных у разрад звыклых багоў, мэляманы глядзяць эпітафію жывым жыхарам неба - канцэртнік "Familiar To Millions" (Уэмблі, ліпень 2000 г.) - і неўпрыкмет выціраюць набягаючую сьлязу...

## Глямур

Калі перакладаць даслоўна з ангельскай, атрымаецца нешта накшталт "шыку", але апошняе гучыць неяк танна, тады як Г - рэч дарагая. У слоўніках ёсьць значэньне "чараўніцтва", але гэта занадта казачна, "прывабнасьць" - зацёрта і няўцямна... Карацей, французскае "ля" і кацінае "мур" (плюс першая Г) уносяць дзікую фанэтычную і сэнсавую блытаніну

дэфініцыі, таму дзеля зразумеласьці адзначым, што асноўныя сфэры ўжываньня слова - мода, СМІ (глянцавыя модныя і ноў-хаў часопісы), то бок наагул лайфстайл.



Г-ным лічыцца насіць шыкоўныя вячэрнія туалеты, катацца на дарагой тачцы, наведваць VIP-partys і чытаць "Glamour", парфуміцца вычварэнскім "Glamourous" і балдзець ад Самай Глямурнай Жанчыны Пэнэлопы Круз. Г у вопратцы і стылі жыцьця стварае рэальную апазыцыю гранжу, і яго прышэсьце нагадвае пра адвечныя каштоўнасьці поп-арту. Г схільны замяняць сабой паняткі "пачуцьцё", "каханьне", "дасканаласьць", нават "мода" і інш., таму вельмі важна разумець, што самая сур'ёзная небясьпека для Г-нага суб'екта, - скаціцца да "дзешавізны". Лепей ужо забіцца (хаця не, самазабойствамі ў наш час займаюцца толькі мяшчане).

## Гульфік

Дэталь пярэдняй паловы нагавіцаў для апрацоўкі патаемнай засьцежкі (петляў, маланкі, кнопак і г.д.). Г падарыла чалавецтву эпоха Адраджэньня. Тады ён уяўляў сабой багата ўпрыгожаную торбачку для чэлеса. Аксамітавыя нагавіцы, паводле тагачаснай моды, прыкрывалі сьцёгны і ягадзіцы, але Г - галоўнае ўпрыгожаньне строю - быў ганарыста выстаўлены на ўсеагульны агляд. На гіганцкі Г Гарганцюа, паводле сьведчаньня Франсуа Рабле, пайшло "шаснаццаць з чвэрцю локцяў ваўнянай матэрыі, і пашыты ён быў у выглядзе дугі, прыгожа замацаванай дзьвюма залатымі спражкамі з эмалевымі кручкамі, у кожную зь якіх быў устаўлены смарагд велічынёю з апэльсін".

Накладныя мужчынскія гульфікі - некалькі слаёў паловак са звычайнай шчыльнай тканіны - прышываліся да ніжняй часткі мужчынскага строю, каб больш падкрэсьліць "вабнасьці", а мужчыны, не асабліва адораныя прыродай, аддавалі даніну культу фаласа своеасаблівым чынам - у Г запіхваліся насоўкі, манэты, ключы і г.д. Калі зірнуць на партрэты Напалеона ў поўны рост, адразу кідаецца ў вочы ягоная любоў да шырокіх накладных Г. Новы час усялякім чынам імкнуўся наблізіць роўнасьць полаў, а таму Г з эфэктна-пікантна-ўзбуджальнай дэталі мужчынскага іміджу ператварыўся ў банальную пляскатую частку закрою мужчынскіх нагавіцаў, элемэнты якой маюць характэрную асаблівасьць заядаць, не раскрывацца і пахабна расшпільвацца ў самыя нязручныя моманты. Але самае зьневажальнае і крыўднае - прышчэмліваць маланкай адпаведныя часткі цела - як напамін пра тое, што мы згубілі!




## Гендэрны

Ад анг. Gender - пол. Першая частка такіх вызначэньняў, як Г палітыка, Г стратэгія, Г балянс і інш.



Шматлікія Г-ныя дасьледаваньні сталіся моднымі ў Эўропе ў другой палове мінулага стагодзьдзя (з разьвіцьцём структуралізму, фэмінізму і г.д.) і скіраваныя на дасьледаваньні ўзаемаадносінаў полаў у грамадзтве. Менавіта модай на гендэрныя дасьледаваньні абгрунтаваная барацьба за правы жанчынаў, за роўнасьць полаў, у тым ліку палітычную, эканамічную і прававую. У Беларусі жанчыны складаюць толькі 30% дзяржаўнага апарату, затое цэлыя 3/4 хатняй (чытай - бясплатнай) працоўнай сілы.

Да гэтага часу шматлікія філёзафы і сацыёлягі ўсур'ёз займаюцца вызначэньнем "полу" разнастайных краінаў (напрыклад, Вялікабрытанія - "мужчына", Францыя - "жанчына"), вывучэньнем Г балянсу ў фальклёры розных народаў (да прыкладу, у беларускіх казках баба альбо "дурная", альбо настолькі крывадушная, што яе розум толькі замінае прагрэсу чалавецтва).

***Як паказаць, што ты ў курсе.*** Зайшоўшы на працу да сябра-праграміста і ўбачыўшы яго ў атачэньні даўганогіх сакратарак, трэба глыбакадумна зазначыць: "Та-а-к, а з Г балянсам у вашым офісе ня ўсё ў парадку". Можна таксама доўга распрагацца наконт Г палітыкі ў гуманітарных і тэхнічных ВНУ.

## Гербалайф

Кожны чуў пра Г, аднак мала хто наважваўся есьці гэты парашок. Існуе меркаваньне, што Г - сродак для пахудзеньня. Аднак гэта зусім ня так. Як сьцьвярджаюць стваральнікі Г, гэта ня лекавы прэпарат, а цэлая сыстэма харчаваньня, якая прадугледжвае ўвядзеньне ў арганізм аптымальных па колькасьці і якасьці хімічных кампанэнтаў у адпаведнасьці з патрэбамі арганізму. Такім чынам, Г павінны есьці ўсе, нават маленькія, ні ў чым не вінаватыя дзеткі.




Распрацоўшчыкі кажуць, што з дапамогай Г харчаваньне чалавека зводзіцца да сілкаваньня яго клетак. Тут з тэарэтыкамі Г спрачаюцца ўсе тыя навукоўцы, каму не лянота (чытай, каму не заплацілі). Справа ў тым, што сілкаваньне клеткі - толькі адно са зьвёнаў ланцуга ў працэсе засваеньня ежы. Тыя ж "непадкупныя" сьцьвярджаюць, што ў кожнага дзясятага па прыёме Г назіраюцца адмоўныя рэакцыі. Насамрэч прэпаратаў, падобных да Г, у сьвеце існуе маса - амэрыканскія "Ультра-сьлім", "Сьлім-фаст", італійскі "Біёрапід".

Самае вялікае дасягненьне Г - укараненьне новых прыёмаў і мэтадаў рэклямы. Сеткавы маркетынг на постсавецкай прасторы пачынаўся менавіта з распаўсюду Г. І, трэба думаць, ён жа выкапаў Г магілу. Актыўнае абмеркаваньне станоўчых і адмоўных эфэктаў ад ужываньня прэпаратаў пачалося тады, калі маса людзей са значкамі "Хочешь похудеть - спроси меня как" і дзіўным лягатыпам, нечым падобным да кветкі марыхуаны, стала крытычнай. Другая бяда тых, хто рэклямуе Г , у тым, што яны не ўлічылі элемэнтарнае: нашыя суайчыньнікі слова "хімічны" найперш асацыююць з заводам "Нафтан". Адзін са сьлёганаў раскруткі прэпарату - "Г - гэта лад жыцьця". Атрымліваецца так, быццам бы ёсьць здаровы лад жыцьця, ёсьць нездаровы, а недзе паміж імі - Г.

***Як паказаць, што ты ў курсе.*** Калі сустрэнеш у мэтро чарговага небараку са значкай "Хочешь похудеть - спроси меня как" - лепей адыдзі ад яго і не правакуй прыступаў агрэсіі.





забулон глыбоцкі

# ПАВЕРХАМ НІЖЭЙ ЗА ГАЛІВУД

часам яны не вяртаюцца...

## КАЗУРКІ, РЭПТЫЛІІ І ПСЫХІ

Надыйшлі 50-я, "залаты век" для іншага віду танных падробак, што прэтэндавалі на тое, каб лічыцца кінамастацтвам.

..."Халодная вайна", жах перад Бомбай, Амэрыка на кані, у краіне бэбі-бум... У 1947 па ЗША актыўна курсіруюць чуткі, што ў Арызоне разьбіўся НЛА. Гэтага было дастаткова, каб жахі новай фармацыі матэрыялізаваліся ў хорары. Кіно набывае рысы монструознай фантастыкі - з экранаў на гледача паглядаюць жукавокія пачвары BEM (Bug-Eyed-Monster), яны ж - прыхадні з Марса. Монстры бесьперапынна лезуць на экран: "ТАРАНТУЛЫ", "СЬМЯРОТНЫЯ КОНІКІ", "КРАКЕН ПРАЧЫНАЕЦЦА" etc. "ПАЧВАРА З ГЛЫБІНІ 20000 САЖАНЬ" у 1953 выклікае паніку ў прыморскіх гарадах.

І нарэшце, увасабленьне страху перад наступствамі навукова-тэхнічнага прагрэсу і адначасова знак трыюмфу самурайскага духу, яе вялікасьць "ГАДЗІЛА"! У 1954 яна зьела трынаццацімільённы бюджэт - і апраўдала сябе. Для японцаў , зьнясіленых вайной і галечай, Гаджыра стала кінапомстай амэрыканцам. Тыя, незнаёмыя з жудасьцямі Другой Сусьветнай, ціха паміралі ад жаху ў крэслах кіназаляў, назіраючы за творамі студыі "Тоха" і рэжысэра Інасіры Хонды.

Увогуле ў гэты час пачынаецца працэс канчатковага звароту вытворцаў малабюджэтных жахаў да падлеткавай аўдыторыі. Хіт жахаў 50-х - "УВАРВАНЬНЕ ВЫКРАДАЛЬНІКАЎ ЦЕЛАЎ" (1956) па рамане Джэка Фінэя. Гэты фільм канчаткова засьведчыў зьмены ў пазыцыянаваньні жаху - ад былога "невядома дзе і калі" да канкрэтнага "тут (у Амэрыцы) і зараз (у наш час)". І як агонія старога добрага хорару - "Я БЫЎ ПАДЛЕТКАМ-ФРАНКЕНШТЭЙНАМ" (1957) і "ФРАНКЕНШТЭЙН СУПРАЦЬ КАСЬМІЧНЫХ ПАЧВАРАЎ" (1965). Гэтыя фільмы ператвараюць былога інфэрнальнага монстра ў вартага шкадобы блазна.

Тым часам на кінапляцоўку з творамі Эдгара Алана По пад пахай выбіраецца Роджэр Карман, вядомы па стужках "КРЫВАВАЯ МАМА" і "РАЗЬНЯ Ў ДЗЕНЬ СЬВ. ВАЛЯНТЫНА". Дарэчы, у 1963 годзе на ролю ў экранізацыі "Ворана" (паводле По) ён запрашае самога старэчу Карлоффа.

Менавіта ў 60-я з тыповым В-бюд-

жэтам быў зьняты фільм, які ніхто зараз не аднясе да таннага хорару. "ПСЫХА" пераканаўча прадэманстраваў, што малы бюджэт - гэта не заўжды дрэнная якасьць. Да таго ж, Хічкок сабраў неблагую касу.

Цэнзурныя ланцугі аслабелі, і зьяўляецца яго вялікасьць Маньячны Трылер - у 1963-м стужка Хэршэля Гордана Льюіса "КРЫВАВЫ БАНКЕТ" мела вялікі посьпех. У 1974-м зьяўляецца "РАЗЬНЯ МОТАПІЛОЙ У ТЭХАСЕ" зь бюджэтам 140 тысячаў, якая канчаткова парывае сувязі са старымі школамі хорару. Крывавы гіпэр-рэалізм робіцца модай дня.

Напрыканцы 60-х новая крывавая стылістыка танных хорараў сталася настолькі папулярнай, што на яе выдаткоўваюць сякія-такія грошы. "ДЗІЦЁНАК РОЗМАРЫ" (1968), "ЭКЗАРЦЫСТ" (1973) - клясычныя прыклады B-стужак з A-бюджэтамі. Але касавыя посьпехі фільмаў жахаў не задаволілі студыі - няшмат дарослых ішлі на такое кіно, а падлеткаў на яго не пускалі. Да таго ж прадусары не ўлавілі сучаснага лейтматыву таннага хорару, дзе галоўным пудзілам быў ня д'ябал ці вампір, а нематываваная крыважэрны сэрыйны забойца. У сярэдзіне 70-х жанр апынуўся ў відавочным крызысе, які нараджаў прадчуваньне рэвалюцыі.

У тытрах зьявілася прозьвішча Ўэса Крэйвэна - пачынаўся новы кашмар.

## УЭСЬЛІ БАЯЗЬЛІВЕЦ, ІНЖЫНЭР ПАДЛЕТКАВЫХ ДУШАЎ

Ён пабачыў новую таргет-групу жахаў: падлеткі 14-19-гадовага ўзросту; дзеці сярэдняй клясы, якія жывуць у прыгарадзе, езьдзяць у коледж на аўтамабілі і мараць зьбегчы ў вялікі сьвет. Teenager стаў неад'емным элемэнтам хорару. Крэйвэн паказаў усім, як трэба пужаць сучаснага гледача, зьняўшы самы першы "КАШМАР НА ВУЛІЦЫ ВЯЗАЎ". Фрэдзі Кругер стаўся Санта-Кляўсам нашых дзён: такі ж знаёмы для кожнага, чаканы дзядзька з чырвоным носам (а заадно і згарэлым тварам), ён прыходзіць да дзяцей уначы і замест падарункаў дорыць кашмары.

Паказальна, што Ўэс Крэйвэн (то бок "баязьлівец") цярпець ня можа раманаў Стывэна Кінга - гэта яго відавочны канкурэнт па апісаньні "падлеткавага кашмару ў маленькім мястэчку". Мажліва, апошні насамрэч выглядае на тое: на канец 70-х - пачатак 80-х прыпадае росквіт літаратурных жахаў, і кніжкі Кінга, Страўба, Кунца і іншых займаюць першыя радкі ў сьпісах бэстсэлераў.

Раньнія опусы Крэйвэна, такія як "АПОШНІ ДОМ НАЛЕВА" (1974), былі вельмі падобныя да твораў іншых пасьлядоўнікаў Кармана: танныя спэцэфэкты не вылучаліся асаблівай арыгінальнасьцю. Але малады рэжысэр выношваў новыя ідэі хорару. У 1977 ён прынёс Джорджу Рамэра, славутаму сваёй сэрыяй пра жывых мерцьвякоў, сцэнар новага фільму. Той адмовіўся ўдзельнічаць у праекце: "Гэта занадта страшная гісторыя. Я люблю жудасных монстраў, а не безыменны жах". Але Крэйвэн зьняў-такі малабюджэціну "ПАГОРКІ МАЮЦЬ ВОЧЫ" (1977) - пазьней часопіс "Хорар-скрын" назаве яе "самым страшным фільмам дзесяцігодзьдзя". Ведалі б яны, што Крэйвэн будзе здымаць потым!

А пакуль што гледачы фанацеюць ад эпахальнага фільму Джона Карпэнтэра "ХЭЛОЎІН" (1978) з маладой Джэмі Лі Кёрціс. Амэрыканцы не рызыкнулі ўкінуць у яго "лішнія" 300 тысяч даляраў, якія далі на фільм эўрапейскія фінансісты, - і ў выніку прадулі мільённыя прыбыткі, што ідуць да гэтага часу. Але выканаўцы галоўных роляў не атрымалі за гэты посьпех (першы год - 55 мільёнаў прыбытку) анічога, бо працавалі выключна за ганарар. Выдатная рэжысура, драматургія, добрая ігра акцёраў, якія даскanала перадалі атмасфэру амэрыканскай правінцыі, дзе колюча-рэжучым інвэнтаром арудуе пацыент псыхушкі - слэшэр стаў сучаснай клясыкай.

Выкшталцоны "ФАНТАЗМ" (1979), зьняты "сямейнай" здымачнай групай, распачаў падджанр сучасных сюррэалістычных жахаў - у наш час гэтую лінію працягваюць такія стужкі, як "ПРАЗ ГАРЫЗОНТ" і "Ў ПАШЧЫ ВАР'ЯЦТВА". Тут гледача ахоплівае жах з-за прынцыповай нелягічнасьці таго, што адбываецца на экране, з-за адсутнасьці мяжы паміж рэчаіснасьцю і жахам.

У 1980-м выходзіць ня менш выбітная "ПЯТНІЦА, 13", якая працягвае лінію "Хэлоўіна". Акторская гульня тут набліжаецца да нуля, але стужка вынайшла некаторыя новыя сюжэтныя хады, што сталі потым адметнасьцю фільмаў пра хлопцаў з пашкоджанай "кукушкай". Бюджэт - 700 тысячаў, прыбытак - 37 мільёнаў, пэрсанаж Джэйсан - культавая фігура і моладзевы ідал.

Тым часам пракатны посьпех "Пагоркаў" адчыніў перад Уэсам Крэйвэнам дзьверы шмат якіх незалежных студыяў. На працягу пяці год ён здымае тры стужкі па чужых сцэнарах, дзе шліхуе сваё майстэрства.

Так і заставаўся б жанр па-ранейшаму ў ніжняй лізе кінабізнэсу, калі б у сярэдзіне 80-х не зьявіўся фільм, які цалкам зьмяніў уяўленьні гледачоў і крытыкаў пра кінематаграфічныя жахі. Адначасова Крэйвэн піша свае сюжэты, але для студыяў яны застаюцца незразумелымі. Сцэнар "КАШМАРА НА ВУЛІЦЫ ВЯЗАЎ" некалькі год блукаў па сталах прадусараў - яго адхілялі як "недастаткова страшны". Нарэшце ў 1984 годзе знайшлася маленькая і нікому не вядомая кампанія "New Line", якая пагадзілася даць сваю базу. Крэйвэн хуценька, пакуль не перадумалі, сабраў каманду і за два месяцы зьняў фільм.

На прэм'еру былі запрошаныя 50 журналістаў, зь якіх прыйшлі толькі трое. Здымачная каманда "Кашмараў" была ў шоку: калі на першы паказ не зьяўляецца прэса, значыць, усё накрылася!.. Але дзе там - прыбыткі Фрэдзі агаломшыла нават Джона Карпэнтэра, які сам можа напужаць да сьмерці каго заўгодна: "Крэйвэн зноў навучыў мяне баяцца". Невядома, ці дабраліся дахаты тыя трое журналістаў, але раптам усе (!) газэты пачалі раіць "ніколі не глядзець гэты пачварны фільм".

1978-1988 гады можна лічыць "залатым векам" кінахорару, калі жанр узьняўся да ўзроўню сапраўднага мастацтва - "ДЭМАНЫ" (1985) Дарыё Арджэнта, "ЗВОНКУ" (1981) Лючыа Фульчы, "РЭАНІМАТАР" (1985) і, зразумела, "ПАЎСТАЛЫЯ ЗЬ ПЕКЛА" ўвайшлі ў "залатую" скарбонку мас-культуры.

Але ў хуткім часе зьяўляюцца працягі "Кашмараў", Фрэдзі паступова абрастае "левымі" родзічамі, якія ў тысячах фільмаў перасьледуюць пераважна тынэйджэраў. "New Line" ператвараецца ў вялізную кінаімпэрыю, самую вялікую зь незалежных студыяў, а Кругер у выкананьні Робэрта Энглунда робіцца "ўкладышам для жуйкі". Надыходзяць дзевяностыя.

## ПАМІЖ ХЦІВАСЬЦЮ І МАСТАЦТВАМ

Большасьць стваральнікаў галівудзкіх жахаў - людзі, якія проста працуюць за някепскія грошы: яны старанна выконваюць патрабаваньні прадусараў і робяць усё тое, што можа павялічыць прыбытак кіношкі. Пасьля працы - адпачынак у бары, ці тэлевізар зь півам, ці гідрапірыраваная палюбоўніца і рыпучы ложак у матэлі. Яны не выконваюць нейкія рытуалы, як готы, і вельмі рэдка прыпадабняюцца да сваіх пэрсанажаў.

Але часам і яны выходзяць па-за межы Галівуду і ствараюць дзеля ўласнага задавальненьня трэш 1-га гатунку. Зь іншага боку, незалежныя танныя жахі ў апошні час зрабіліся рэдкасьцю, камэрцыйная сытуацыя складаецца такім чынам, што зьняць файны танны жах немагчыма. Прафсаюзныя патрабаваньні растуць, і зараз у Амэрыцы "танная" стужка мае бюджэт да 20 млн. даляраў. Крывавых даляраў...









Напачатку 90-х францускі крытык Філіп Рос пісаў: "Падняўшыся да вышыняў і стварыўшы шэдэўры, у канцы 80-х жанр спаліў сабе крылы пад сонцам камэрцыялізму і спрошчанасьці. Творцы перасталі тварыць і заняліся пераказамі раней створанага. І вось некалі верная публіка адварочваецца. Замкнёны на сабе ізаляваны жанр зьвяртаецца да сарказму і насьмешкі - апошняй зброі, якая дапамагае выжыць. У "ТАКСЫЧНЫМ МСЬЦІЎЦЫ" Пэтэра Вайля герояў смажаць у печцы, адрэзаныя галовы скачуць па зямлі як шарыкі для пінг-понгу - і зал рагоча. Новазэляндзкая "ЖЫВАЯ МЯРЦЬВЯЧЫНА" выварочвае сутнасьць хорару: цяжка знайсьці больш сьмешны фільм. Надыходзіць анігіляцыя жанру".

Знакавую для гэтага працэсу стужку здымае зноў-ткі Крэйвэн. "КРЫК" і яго працягі - вось сучасны хорар. Гэты фільм праходзіць у каталёгах па двух разьдзелах - "хорар" і "гумар". Менавіта ён стаў тым хорар-піянэрам, які сабраў у пракаце больш за 100 млн. А за ім панёсься натоўп эпігонаў: "Я ВЕДАЮ, ШТО ВЫ ЗРАБІЛІ МІНУЛЫМ ЛЕТАМ", "ФАКУЛЬТЭТ" і пародыя на пародыю - "ВЕЛЬМІ СТРАШНАЕ КІНО" з порназоркай Кармэн Электрай у ролі дзяўчынкі-ахвяры.

Нешматлікія энтузіясты працягваюць здымаць сапраўдныя жанравыя жахі: "ДЖЫПЭРС-КРЫПЭРС" (2001), эўрапеец Ломэль, што прадаў душу таннаму хорару, і далей здымае свайго "БУГІМЭНА" - і, нарэшце, сам маэстра Карпэнтэр са "ЗДАНЯМІ МАРСА", якія прымушаюць узгадаць клясычныя творы майстра кінатрэшу.

Хорар робіцца вострай прыправай да іншых жанравых страваў, ад якіх сама мала цягне на ваніты. "НІДЗЕ" ("ЖЫЦЬ І ПАМЕРЦІ") Грэга Аракі - гэта баляда пра моладзь 90-х, напісаная на матыў усіх хорарскіх штампаў, дзе "Атары Тынэйдж Рыот" граюць банду злодзеяў - сьведкаў таго, як падлеткаў забівае "нешта" з космасу. Ці вось яшчэ - вэстэрнаватыя "ВАМПІРЫ" (1998) і натхнёны reality show "ПРАЕКТ БЛЭЙР" - і ўсё гэта тое, дзеля чаго блізу 100 год таму Люм'еры пусьцілі свой цягнік, каб нязмушана абвесьціць пра тое, што жах - гэта мастацтва?!

## 1. грошы на вецер

Наташа скончыла прэстыжны юрфак адной з камэрцыйных ВНУ. Бацькі ўвалілі кучу грошай у адукацыю дзіцяці, якое цяпер засталося бяз працы. Прыстойным кампаніям такія спэцыялісты не патрэбныя, ім падавай выпускнікоў БДУ, ды яшчэ і з досьведам працы. Да таго ж, Наталя даволі цьмяна ўяўляе, як працуе нават сярэдняй велічыні фірма і што робяць у ёй юрысты. Шанцы знайсьці працу зьведзеныя да нуля. Быць простай сакратаркай не дазваляюць амбіцыі.

**Экспэртыза.**
**Нэлі Міхайлоўская (кадравая агенцыя "Анкор-М"):**

- Усё лета і да кастрычніка мы сядзім у напружаньні. Стан - ад жалю да вар'яцтва. Пасьля дзясятага-дваццатага чалавека пачынаеш проста шалець. Так і хочацца запытацца: "А дзе вы былі, калі паступалі, вучыліся? Чым думалі?" Мы ня можам выправіць сытуацыю, калі чалавек ужо мае дыплём. Атрымліваецца, што ён вучыўся ў ВНУ, як улюбёнае дзіця ў сям'і - самы добры, цудоўны і пэрспэктыўны. А выходзіць дзіця ў сьвет - і нікому яно не патрэбнае. У многіх ад гэтага проста шок.

"Нас так навучылі" - звыклае самаапраўданьне ў такой сытуацыі. У самой фармулёўцы, як ні дзіўна, і хаваецца прычына ўсіх наступных бедаў. Паспрабуем узгадаць, ці многія з нас хаця б у 9-10 клясе школы дакладна ведалі, чым хочуць займацца ў гэтым жыцьці, і, галоўнае, што рабілі для таго, каб дасягнуць сваёй мэты. Сёлетняя абітурыенцкая кампанія паказвае, што нямногія. Дакумэнты падаюцца на цалкам процілеглыя спэцыяльнасьці, а паступаюць людзі па прынцыпе "як бог дасьць". Далей - болей. Не сакрэт, што ВНУ для большасьці студэнтаў - чарга за дыплёмам. Гэта пацьвярджае і матывацыя выбару спэцыяльнасьці: "няма конкурсу", "паступленьне па сумоўі", "лёгка вучыцца". Ня дзіўна, што ў альма матэр, абранай "па сілах і грошах", характар і месца будучай працы часам не ўяўляюць нават на чацьвертым-пятым курсе. Сярод клюбаў, бараў ды інтэрнацкіх пасядзелак у стане татальнай бесклапотнасьці праходзіць пяць год. Пяць год, якія шмат хто праз усё жыцьцё лічыць сваім зорным часам. А менавіта ў гэты час іншыя закладаюць фундамэнт свайго далейшага зорнага жыцьця. "Нас так вучылі..." А ці спрабавалі мы вучыцца самі?

## 2. дзірка ў адукацыі?

Зірні ўважліва на рэйтынгі запатрабаваных сёньня прафэсіяў. Натуральна, яны датычаць збольшага толькі аднаго сэгмэнту рынку - камэрцыі (бо прэзэнтаваныя зноў жа камэрцыйнымі агенцыямі). Таксама натуральна, што гэтыя рэйтынгі - далёка не апошняя інстанцыя, і ня трэба адразу кідацца перавучвацца з доктара на прадукт-мэнэджэра. Тым ня менш, карціна паказальная. Дзе ў нашай краіне ты можаш, скажам, вывучыцца на брэнд-мэнэджэра, мэрчэндайзэра ці лягістыка? Але аднекуль жа яны бяруцца! Відаць, ня толькі праціраньне штаноў на лекцыях зробіць цябе запатрабаваным спэцыялістам.

**Экспэртыза.**
**Ірына Шаткоўская (кадравы цэнтар "Коллекция открытий"):**

- Нельга спыняцца на атрыманьні адной прафэсіі. Трэба дадаткова навучацца на пэўных курсах, займацца самаадукацыяй. Любы чалавек, калі яму падабаецца ягоная спэцыяльнасьць, акрамя лекцыяў сам шукае дадатковую інфармацыю. Да таго ж, студэнт як асоба, якая расьце, мусіць быць адэкватным у грамадзтве: ён павінен умець наладзіць зносіны, пераканаць, быць аўтарытэтам...

Як бачыш, сыстэма "нас навучылі" папросту не працуе. Дый ці трэба чакаць ад вышэйшай навучальнай установы, што яна адным махам зробіць зь цябе "гатовенькага" спэцыяліста? Яе роля - ня ў гэтым. ВНУ павінна накіроўваць цябе, падказваць, прывіваць культуру навучаньня. Далей дзейнічаеш сам. Ва ўсім цывілізаваным сьвеце ўнівэрсытэты маюць сьпіс абавязковых прадметаў, але таксама і курсы, якія выбірае сам студэнт адпаведна сваім прыхільнасьцям і мэтам. Калі ў нас такога няма, гэта, вядома ж, праблема нашай вышэйшай адукацыі. Але яна ператвараецца непасрэдна ў тваю праблему, і запаўняць прабелы ўсё адно давядзецца табе.

## 3. апроч "коркі"

Як сьцьвярджаюць спэцыялісты кадравых агенцыяў, дыплём - хоць і абавязковы, але далёка не адзіны крытэрый пры працаўладкаваньні. Вядома, у якой-небудзь дзяржструктуры твая "корка" можа і спрацаваць, але мы разважаем пра сур'ёзную кар'еру.

Таму табе спатрэбіцца яшчэ й досьвед працы. Яго, як гэта ні парадаксальна, лягчэй набываць у студэнцкія гады. Большасьць студэнтаў лічаць, што праца прыйдзе да іх сама, а ўжо іх галоўная задача - вучыцца, вучыцца і яшчэ раз вучыцца.

/працяг - с. 38/





**Primal Scream**
**Evil Heat**
[c], [p] 2002 Sony Music



**100-% брута...**
Заходняя крытыка называе альбом "чарговым пераломным пунктам у кар'еры гурта". Колькі такіх "пунктаў" было і колькі чакае наперадзе - пытаньне застаецца адкрытым, але гэты альбом - прынамсі, трэці крок па дарозе, пачатак якой быў закладзены ў 1997 змрочным "Vanishing Point" і працягнуты ў 2000 плытай "Xtrmntr" - злучэньнем электронікі і панку. Выпінацца з такімі стылістычнымі элеганцыямі як мінімум неразумна, але Primal Scream мае на гэта поўнае права.
Што да "Evil Heat", то першы сынгл з альбому - "Miss Lucifer" - сапраўды паказальны. Некантраляваная плыня сайбэрагрэсіі, усеахопнага электрабунту з аднаго боку, а з другога - першародная сэксуальнасьць рок-н-ролу, надзвычай саркастычная і цалкам прыдатная для адпаведнага bootleg'у. Менавіта яны рабілі кожны з апошніх трох альбомаў цалкам арыгінальным і... нечаканым! Калі ўлічыць, зь якім пачуцьцём шараговы мэляман адкідае ўбок чый-небудзь чарговы альбом, то пунктуацыйны знак у канцы мінулай фразы больш як апраўданы.



**Тяни-толкай**
**Имей в виду**
[c], [p] 2002 West Records



**Ёсьць такая прафэсія - людзей весяліць.**
Па ўсім відаць, "Тяни-толкай" наканавана заставацца ў ценю "Ляписа Трубецкого" і "Леприконсов". Спробы адказаць на пытаньне "чаму?" адназначна несуцяшальныя: падчас працы над першым альбомам ТТ "Смеются соседи" ў якасьці ўзорных безальтэрнатыўна разглядаліся экспартаваныя на суседні Ўсход героі, якія тады перажывалі ня лепшыя часы і часам нагадвалі жывых трупаў. Складалася ўражаньне, што людзі, адказныя за тэхнічны і эмацыйны бакі творчасьці ТТ, скрупулёзна рабілі зьлепак, які стаў аб'ектыўным сьведчаньнем стану пацыентаў на той момант - "бадай што жывы..." - і які фатумам вісіць над "толкайцами" дагэтуль.
"Имей в виду" - відавочны крок наперад у параўнаньні з папярэднім альбомам: досыць прыстойныя аранжыроўкі на фоне доўгачаканага студыйнага гуку, больш распрацаваныя партыі "струнных" і "клявішных" і яўна несярэдні ўзровень музыкаў разбаўленыя той наўмыснай "самадзейнасьцю", што выгодна адрозьнівае каманду ад ЛТ і "лепрыкаў". Калі казаць уласна пра песьні, дык ТТ ня сталі такімі арыгінальнымі, каб адмаўляцца ад апалягетыкі "дваровых бэйбусаў", якая прынесла ім посьпех. Усё досыць прафэсійна, весела і непатрабавальна, але пастаянна не пакідае ўражаньне, што зьлепак ад старасьці пачынае крышыцца.



**Eminem**
**The Eminem Show**
[c], [p] 2002 Aftermath Entertainment / Interscope Records



**Суд Лінча з элемэнтамі вадэвілю.**
Пасьля гэтага альбому Eminem - больш як Slim Shady ў асобна ўзятым музычным стылі. Гэта мэсія, які дакладна акрэсьліў сваю мэту - быць трыбунам прыніжаных і зьняважаных жыцьцём і па жыцьці, іх абаронцам і судзьдзём крыўдзіцеляў. Ён пакідае за сабой права караць і дараваць, пасылаць коп'і гневу ў розныя бакі, а той адзінадушны харал на матыў "сто лят", які пяюць Em'у, - фактычнае прызнаньне таго, што сьвету даўно не хапала такога вось містэра Just-Don't-Give-a-F*ck. Проста і з густам: "Я самы горшы з часоў Elvis Presley".
The Eminem Show стаў пікам кар'еры рэпэра. Адкінуўшы ўбок убогую "сацыяльна-палітычную" пазыцыю,назольны травэстызм і дыспрапарцыйныя рэчаіснасьці амбіцыі на званьне "лепшага", варта адзначыць, што альбом нават на тле The Marshall Mathers LP - у свой час адзначанага як самы пэрспэктыўны рэліз "белага" хіп-хопу, - вылучаецца манумэнтальнасьцю ў падыходах і глябальнасьцю мысьленьня. Гэта не пустыя дыфірамбы, а канстатацыя: на карысьць першага сьцьверджаньня сьведчыць распрацаванасьць матэрыялу - ад бітаў да трэкавых адбівак, - а глябальнасьць адчуваецца ў тых спалучэньнях самаўпэўненага Jay-Z зь яго "The Blueprint", Staind з ранячым "Dysfunction" і нават Тупакаўскай All Eyez On Me.







**Зьміцер Вайцюшкевіч, WZ-Orkiestra**
**Баляды**
[c], [p] 2002 Todar



**Тры колеры: белы, чырвоны, шэры.**
Ідэя актыўнай супольнай творчасьці, якую каля пяці год таму ўвяла ў эксплюатацыю беларуская рок-грамада, сыграла з апошняй злы жарт. Той імпэт ад сумеснай працы, што адчувала кола музыкаў падчас працы над першым і самым пасьпяховым супольным праектам "Народны альбом", некаторыя зь іх марна спрабавалі адрадзіць у розных іпастасях. Безвынікова. Занадта вузкае кола, каб знайсьці новыя твары, мэлёдыі і матывы.
"Вось ужо другі год Зьміцер Вайцюшкевіч працуе сольна", - у такім кантэксьце гучыць падобна да эпітафіі. Але яўна не Вайцюшкевічу: адышоўшы ад заганнага карпаратывізму, ён змог рэалізавацца сам (у выпадку з "супольнасьцю" гэта амаль выклік) і выцягнуць на сцэну малавядомых музыкаў. Пасьля аморфнай і часта штучнай "Цацачнай крамы" "Баляды" - гэта сапраўдны паўнавартасны саўндтрэк да нечай карціны сьвету. З драматургіяй, што яўна прасочваецца, вельмі экспрэсіўны, часам трагічны, - але безь непатрэбнай пыхі і танных "трэшавых" спэцэфэктаў у стылі "Беларусьфільму". Надзіва густоўны, нечым блізкі "Тром колерам" Кісьлеўскага - і за колькі крокаў да геніяльнасьці.



**Queens of the Stone Age**
**Songs For The Deaf**
[c], [p] 2002 Interscope Records



**Цяжкі пачатак новай эры.**
QUOTSA - адзін з самых унікальных dream-team новай эпохі. Цяжкавагавы ад адных імёнаў удзельнікаў і прэтэнцыёзны да такой ступені, каб дазваляць сабе быць падобнымі да Led Zeppelin, Stooges, тых жа Black Sabbath і пры гэтым дыктаваць правілы новай гульні, - шоўбіз трэці раз (па колькасьці альбомаў) у шоку ад гэткай нахабнасьці.
"Песьні для глухіх" сталі выклікам ня толькі для людзей з абмежаванымі слыхавамі магчымасьцямі (а такія сапраўды аднойчы прыйшлі на адзін з амэрыканскіх канцэртаў каманды ў ЗША), але і для абываталяў, сьвята ўпэўненых у тым, што апошняя генэрацыя рок-дыназаўраў вымерла напачатку 1980-х. Нік Олівэры і Джош Хом - заснавальнікі QUOTSA - прыцягнулі ў групу такую колькасьць маладых клясыкаў, якая дазволіла стварыць цалкам выбітны праект: у запісе "Songs For The Deaf" узялі ўдзел Марк Лонэган, былы басыст Мэрыліна Мэнсана Твігі Рамірэс, музыкі A Perfect Circle, а таксама Дэйв Грол. Небясьпека таго, што кожны з адзначаных пачне прыўносіць у QUOTSA "фірмовыя" кампанэнты сваёй музыкі, беспадстаўныя: праект настолькі самадастатковы, што сам уплывае на калябарантаў.
Паважнасьць нараджае канцэптуальнасьць: ніводнага згубленага гуку, нават рэха ад сьценаў пакоя, дзе запісваўся альбом - "для нас гэта вельмі важна", - кажа Джош. Прастата і дзівосная лёгкасьць гукавой какафоніі. Цяжка назваць ідэальным саўнд "Songs" з пункту погляду камэрцыі, але з пункту погляду адметнасьці - безумоўны шэдэўр.

І вось што з гэтага атрымліваецца. Сёньня Наташу зь яе юрыдычным дыплёмам "ламае" быць простай сакратаркай. Зь іншага боку, яна нават ня ведае, што такое сапраўдная фірма знутры. Вось калі б яна пайшла працаваць той самай, умоўна кажучы, сакратаркай курсе на другім-трэцім, сёньня яна ўжо мела б сякі-такі досьвед і сувязі. Што называецца, была б "у асяродку".

**Самыя запатрабаваныя спэцыялісты на рынку працы ў Менску (паводле інфармацыі кадравага цэнтру "Коллекция открытий"):**

- спэцыялісты ў галіне продажаў (у тым ліку прадукт-мэнэджэры, рэгіянальныя прадстаўнікі, гандлёвыя прадстаўнікі, мэнэджэры па продажах) - 30%;
- спэцыялісты ў сфэры эканомікі (бухгальтары, фінансавыя аналітыкі, фінансавыя спэцыялісты) - 22%;
- спэцыялісты ў галіне маркетынгу, рэклямы (кіраўнікі аддзелаў маркетынгу, спэцыялісты па маркетынгу, брэнд-мэнэджэры, мэрчэндайзэры, лягістыкі) - 17%;
- топ-мэнэджэры - 15%;
- офісныя працаўнікі - 6%;
- IT-спэцыялісты - 5%;
- інжынэрна-тэхнічныя спэцыялісты - 5%.

**Экспэртыза. Нэлі Міхайлоўская ("Анкор-М"):**

- Ня бачу нічога дрэннага, калі студэнт прыходзіць у кампанію з добрым імем, робіць нейкую нудную і рутынную працу і такім чынам атрымлівае неабходны досьвед. Чалавек ведае, як працуе кампанія. У нас жа такога няма. У ВНУ студэнту кажуць: "Ты эканаміст-мэнэджэр, ім ты і павінен быць. Усё, што ніжэй, не для цябе". Але пачынаць жа зь нечага трэба!

**Незапатрабаваныя прафэсіі (паводле інфармацыі "Анкор-М"):**

- юрысты;
- эканамісты;
- PR-спэцыялісты;
- банкаўскія спэцыялісты;
- перакладчыкі.

Яшчэ адной - банальнай, але зноў жа неабходнай - умовай ёсьць веданьне замежных моваў. І зусім ня важна, айцішнік ты ці дызайнэр інтэр'еру. Рынак працы глябалізуецца, і ў маленькай краіне адной толькі роднай мовай не абыйдзесься. Аднак узровень выкладаньня (дый вывучэньня) іншых моваў у ВНУ, акрамя хіба што інстытуту замежных моваў, пакідае жадаць лепшага і зь вялікай нацяжкай характарызуецца як "дрэнны размоўны". Каму ў такіх умовах патрэбная твая пяцёрка па ангельскай, што стаіць у дыплёме?

У дадатак да ўсіх вышэйзгаданых умоваў спэцыялісты кадравых агенцыяў вылучаюць асобасныя якасьці. Схільнасьць да лідэрства, амбітнасьць, ініцыятыўнасьць і самастойнасьць ніколі не зашкодзяць. І гэтаму таксама трэба вучыцца. Дзякуй богу, існуе шмат разнастайных трэнінгаў, і застаецца толькі разабрацца, што патрэбна менавіта табе.

## 4. хто, калі ня ты?

Такім чынам, адказы на адвечнае пытаньне "Як знайсьці працу?" адшукаліся самі сабой. Варта самому ляпіць зь сябе прафэсіянала. Ніхто, апроч цябе, займацца гэтым ня будзе.

І гэта нават не парада, а тым больш не чарговае "прамываньне мазгоў". Гэта - элемэнтарная лягічная высноза.

**Рэйтынг запатрабаваных прафэсіяў (паводле інфармацыі кадравай агенцыі "Анкор-М"):**

- спэцыялісты аддзелу продажаў;
- адміністрацыйны пэрсанал;
- спэцыялісты па фінансах зь веданьнем замежнай мовы;
- спэцыялісты па маркетынгу;
- спэцыялісты па лягістыцы;
- аддзел пэрсаналу;
- сыстэмныя адміністратары.